БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 6 (13538)

3 — 9 лютага 1992 года

Цана 1 рубель (па падпісцы — 35 кап.)



У нумары:



# ЗАБІЛІ СТУДЭНТА. Хто адкажа?




**У Віцебску пад дубінкамі АМАПа загінуў студэнт медінстытута Аляксандр Баранаў.**

.Віцебск. Вуліца ля рэстарана "Аўрора". Група студэнтаў, сярод якіх быў і студэнт другога курса Віцебскага медінстытута Аляксандр Баранаў, пасля сяброўскага застолля раз'язджаецца па дамах. У гэты позні час адзіным транспартным сродкам засталося таксі. Машына спынілася, але на ўгаворы развезці хлопцаў вадзіцель адказаў, што возьме толькі чатырох. Усчалася спрэчка. Сапраўды, мала хто з нас ніколі не ўступаў у непрыемную размову з таксістам, прадаўцом, кантралёрам... Але звыклая бытавая справа скончылася трагічна. Трэба ж было здарыцца так, што менавіта ў той момант побач праязджаў патруль атрада міліцыі асобага прызначэння. Як паведаміла УУС Віцебскага аблвыканкома, Саша Баранаў пачаў аказваць лютае супраціўленне. Не, ён не выцягнуў з кішэні бомбу. Ён проста пабег. Як мы цяпер ведаем, ніхто з Сашавай кампаніі не напіўся да свінскага стану. Медыкі канстатавалі лёгкую ступень ап'янення. Аднак кожны з чатырох udараў гумавым "дубцом" быў смяротным.

Як паведамляе прэса са слоў Сашавых знаёмых, у яго характары пераважваў спакой, ён быў вытрыманы, тактоўны. Чаму ж Аляксандр Баранаў пабег з месца сваркі? Надта добра ведаем мы норавы нашых абаронцаў парадку, якіх не дачакаешся тады, калі трэба сапраўды абараніць жыццё, але якія з'яўляюцца тут як тут, калі можна зарабіць лёгкую славу, зрабіць выгляд, што кожны чалавек, кожны грамадзянін можа разлічваць на дапамогу. Ніякай славы на гэты раз АМАП не зарабіў. Адбылося забойства, і мы спадзяёмся, што суд прызнае гэта як факт. Факт, які здольны выклікаць выбух і ў без таго напружанай грамадскай абстаноўцы.

Вядома, АМАП зробіць усё магчымае, каб абараніць гонар мундзіра. Мы таксама не хочам распальваць страсці і неяк уплываць на рашэнне суда. Але грамадскі кантроль неабходны. Як стала вядома, студэнцкія арганізацыі горада прынялі рашэнне аб правядзенні маніфестацыі пратэсту. Адначасова рада студэнцкай асацыяцыі звярнулася да дэпутатаў ВС РБ Грыба і Федарчука пракантраляваць ход следства. Выкладчыкі Віцебскага медінстытута накіравалі ліст С.С.Шушкевічу, дзе прапанавалі стварыць незалежную камісію, якая будзе весці паралельнае следства па справе забойства Аляксандра Баранава.

Хто ж быў забіты ў тую ноч? Рабаўнік? Рэкецір? Гвалтаўнік? За кім з такім імпэтам несліся ўзброеныя дубінкамі амапаўцы? Папярэднія звесткі даюць магчымасць зрабіць выснову: забіты чалавек, які межаў закона не пераступаў. Сварка з таксістам — гэтая прэлюдыя трагедыі — не падстава для забойства. Суд павінен расставіць кропкі над "і". Калектыў рэдакцыі "Чырвонай змены" падтрымлівае прапанову аб стварэнні незалежнай камісіі з удзелам прадстаўнікоў грамадскасці. Так будзе больш надзейна. Кожны з нас можа аказацца на месцы Сашы.

ALFA

## ЧАКАЕМ ШЧАСЛІВАЙ ЗОРКІ?

Першыя дні апошняга месяца зімы гэтага года ахарактарызаваліся паскарэннем хады палітычнага цягніка. Ці можа зоркі паспрыялі, ці можа чарговае павышэнне цэн – але час, які людзі раней удзялялі працэсу яды, цяпер выкарыстоўваецца для палітычнай дзейнасці. Жарты жартамі, але менавіта цяпер, калі дастаткова іскры, каб запаліць вогнішча народнага нездавальнення палітыкай урада, самыя разнастайныя грамадскія ўтварэнні пачалі набіраць балы для сябе ў чаканні мяркуемых змен. Напачатку лютага адбыўся сход, на якім шэраг грамадскіх і палітычных суполак аб'яднаўся ў блок дэмакратычных сіл пад назваю "Новая Беларусь". Нягледзячы на часам супрацьлеглыя пункты гледжання ўдзельнікаў, была створана каардынацыйная Рада. Многія каментатары ўгледзелі ў гэтай падзеі раскол у шыхтах апазіцыі. На самай жа справе ўсе пытанні круцяцца вакол адзінай тэмы – рэферэндуму аб перавыбарах Вярхоўнага Савета Беларусі. Чаго можна дабіцца такім рэферэндумам? Скліканне новага Вярхоўнага Савета, у які, паводле меркаванняў ідэолагаў рэферэндуму – лідэраў БНФ "Адраджэнне", увойдуць найбольш радыкальна настроеныя палітыкі. Пакуль нельга сказаць, ці апраўдаецца такі прагноз, ды й ці адбудзецца сам рэферэндум. Наогул, у першыя пасля лібералізацыі цэн дні нават самы смелы палітык не мог спрагназіраваць сітуацыю. Чакалі мітынгаў, страйкаў, галадовак... Але замест галадоўкі палітычнай мы атрымалі пакуль галадоўку фізічную. І тут усе рэзка пачалі шукаць паралелі – з Германіяй да 33-га года, з Амерыкай перыяду вялікай дэпрэсіі, нават, з Польшчай пачатку 80-х. Што ж, паглядзім: і ў Амерыцы, і ў Германіі, ды і ў нашых суседзяў-палякаў да ўлады прыйшлі аўтарытэтныя лідэры, якіх большасць народа цяпер атаясамлівае з іхнімі рэформамі. І Гітлер, і Рузвельт, і Лех Валенса сваімі мерамі паспрыялі ажыўленню бізнесу. Але ў першых дзвюх краінах рэформы былі накіраваныя на наладжванне дысцыпліны вытворчасці, зладжанасці дзеянняў вытворцы і гандлю. У Польшчы ж націск быў зроблены на напаўненне прылаўкаў шляхам свабоднага гандлю. Гэтае – класічны прыклад для краін "трэцяга свету", прымальная мера для напаўнення прылаўкаў дзяржавы з нізкім эканамічным патэнцыялам. Для Беларусі, з яе развітой эканомікай, неблагімі сельскагаспадарчымі ўмовамі, варыянт, пры якім на рынак паступае толькі 20 працэнтаў мясцовага тавару ад усёй таварнай масы, як, напрыклад, у Польшчы, на мой погляд, непрымальны.

Хто сказаў, што ў палітыцы няма паэзіі? Ва ўсялякім выпадку, яшчэ нядаўна беларускіх паэтаў абвінавачвалі ў імкненні захапіць уладу. Не захапілі. І цяпер так званыя прафесіяналы ад палітыкі ўпэўненым крокам вядуць рэспубліку ў бок... Чаго? Пад той час, як Ельцын супакойвае амерыканцаў, Кебіч паціскае рукі кітайцам, а "Францыя рыхтуецца да прыёму першага Прэзідэнта Расіі", камусьці хочацца есці. Не заўтра, якое "ўсяляе ў нас аптымізм", а сёння, калі да зарплаты засталіся тры дні, у кішэні – тры рублі, а ў халадзільніку – пажухлая морквіна і напаўпустая бутэлька кефіру. Мы стаміліся пазычаць. Пазычаць тое, што нам завінавацілі. Меры шокавай тэрапіі, якія прымаюцца ў нашую абарону, сапраўды выклікалі шок. Але дзе ж тэрапія? Мы чакаем шчаслівых дзён. Дачакацца б...

**Алесь Палынскі.**

*Афіцыйнае*

## СМБ зарэгістраваны

У адпаведнасці з рашэннем XXX з'езда ЛКСМБ, гэта грамадскае аб'яднанне перайменавана ў "Саюз моладзі Беларусі". 28 студзеня змены і дадаткі да Статута СМБ зарэгістраваны ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Асноўныя мэты дзейнасці аб'яднання засталіся ранейшымі: стварэнне ўмоў для свабоднага развіцця моладзі, раскрыццё яе творчага патэнцыялу, абарона і рэалізацыя інтарэсаў і правоў членаў арганізацыі, садзейнічанне стварэнню гуманнага дэмакратычнага грамадства.

*Пратэст*

## Педагогі мітынгуюць

2 лютага ў Мінску адбыўся санкцыяніраваны мітынг работнікаў народнай адукацыі, у якім удзельнічала, паводле папярэдніх данных, больш як 5 тысяч чалавек. Удзельнікі мітынгу прынялі рэзалюцыю з патрабаваннем аб стварэнні сістэмы сацыяльнай абароны педагогаў. Сярод патрабаванняў таксама, у прыватнасці, стварэнне цэнтра па каардынацыі і абароне працоўнай дзейнасці студэнтаў і навучэнцаў. Ініцыятыва педагогаў падтрымана ЦК СМБ.

*Кампетэнтны адказ*

*Гавораць, што ў бліжэйшы час алкагольныя напоі падаражэюць у некалькі разоў. Ці праўда гэта?*

**А.Іваненка, г.Полацк.**

**Мы звязаліся з намеснікам міністра гандлю Уладзімірам ЧЫГІРАМ з просьбай пракаменціраваць гэтае пытанне.**

— Я нічога такога нават і не чуў,— паведаміў Уладзімір Ільіч.— Ніякіх дакументаў па павышэнню цэн на гарэлку ў Міністэрстве гандлю РБ не рыхтавалася і ў бліжэйшы час рыхтавацца не будзе.



## БЕЛАРУСЬ–КІТАЙ

Для наладжвання сяброўскіх адносін з КНР прэм'ер- міністр РБ В.Кебіч нанёс візіт кіраўніцтву гэтай краіны. Як жа ставяцца да гэтых падзей у Кітаі? Паводле кітайскага друку, цалкам станоўча. КНР жадае наладзіць больш цесныя сувязі з Беларуссю. Вы самі можаце меркаваць аб гэтым па паведамленнях кітайскай прэсы.

"China Deily": Учора народы Кітая і Беларусі ўстанавілі дыпламатычныя зносіны пасольскага ўзроўню згодна з дакументам, падпісаным у Пекіне. Намеснік міністра замежных спраў Кітая Гян Зэнгрэй і беларускі міністр П.Краўчанка падпісалі гэты дакумент ад імя ўрадаў сваіх краін. Было падпісана таксама пагадненне, якое будзе садзейнічаць пашырэнню эканамічных сувязяў.

Пасля шматлікіх прывітальных цырымоній прэм'ер-міністр Беларусі В.Кебіч меў гутарку з кітайскім прэм'ерам Лі Пэнам. У размове было адзначана, што КНР паважае выбар народаў былога СССР і гатовы падтрымліваць нармалёвыя адносіны з усімі дзяржавамі на базе пяці прынцыпаў мірнага суіснавання. Лі Пэн адзначыў таксама, што гэта першы візіт урадавай дэлегацыі СНД у Кітай, што КНР і Беларусь маюць традыцыі сяброўства, надзейную базу для кааперацыі, якую Кітай гатовы развіваць. Гэта датычыцца прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры. Адрозненні ў сацыяльнай сістэме і ідэалогіі не будуць перашкаджаць двухбаковым зносінам.

В.Кебіч распавёў аб беларускай міжнароднай і ўнутранай палітыцы. Адзначыў, што яго візіт меў мэту наладжвання супрацоўніцтва. У сваю чаргу Лі Пэн выклаў унутраную сітуацыю ў Кітаі, заявіў, што развіццё сельскай гаспадаркі — ключ да ўсёй кітайскай эканомікі. Лі Пэн заўважыў, што асноўнае ў аграрных рэформах — гэта падтрымка прыватнай уласнасці і заахвочванне развіцця прыватнага сектара. Кітай будзе прытрымлівацца прынцыпу спалучэння прыватнага сектара і планавай эканомікі.

"South China Morning Post". Кітайскі прэм'ер-міністр заявіў, што кіраўнік урада Беларусі гатовы пашыраць кааперацыю паміж Кітаем і новай дзяржавай — Беларуссю. Лі Пэн заўважыў, што намеснік міністра замежных спраў Тайваня збіраецца наведаць Украіну і Расію для наладжвання сувязяў з былымі камуністычнымі дзяржавамі. Важна, адзначыў далей Лі Пэн, што адносіны паміж народамі Кітая і былога СССР заўсёды былі добрасуседскімі. Як паведамляюць афіцыйныя органы інфармацыі, абодва кіраўнікі абмеркавалі дэзінтэграцыю ў СССР.

Тайвань таксама вядзе сваю палітыку ў рэчышчы развіцця сувязяў з Беларуссю. Намеснік міністра замежных спраў Чанг робіць вояж па былых рэспубліках СССР для навядзення мастоў паміж імі і Тайванем. Паездка гэтая трымалася пад сакрэтам. Як паведамляюць, Д.Чанг спадзяецца паспрыяць выкананню планаў Тайваня, які збіраецца паслаць у СНД 100 тыс.тон рысу, каб дапамагчы Расіі і іншым краінам СНД перамагчы харчовы крызіс.

**Падрыхтаваў Яўген Падгорны.**

# КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Эдуард АСТАФ'ЕЎ, скульптар:*

— Што хвалюе? Усё хвалюе. Нядаўна маці мая пытаецца: "Сынку, а чаму ў крамах няма нічога?" А што я ёй адкажу? Усе разбегліся ў розныя бакі. Асабіста я імкнуся абстрагавацца і ад гэтых цэн, і ад гэтай галечы. Пакуль неяк атрымлівалася ад тых праблем адыходзіць. Дзякуй Богу, тры жанчыны ў хаце, ды хоць не прымушаюць мяне па крамах хадзіць. Інакш усе думкі, акрамя як пра магазіны, — нібы ў палонку... Галава на творчасць проста больш не працуе. У мастацтве — поўны правал. Нікому гэта не патрэбна, заказаў няма, кожны сам за сябе. Ад старога мы адышлі, а да новага, ой, як цяжка прытуліцца. Бо новае гэтае — агульначалавечае, каханне, нянавісць, тое, што нас вучылі разумець толькі зыходзячы з класавых пазіцый. Газет я амаль не чытаю — бачу дрэнна. Але зараз столькі палітыкі, што збегчы ад яе немагчыма. Пра ўрад скажу — я б яго не мяняў. Я б змяніў Вярхоўны Савет. Без улады немагчыма, але я лічу, што ў Вярхоўным Савеце не павінна быць класавых груповак — столькі вось ад рабочых, столькі вось ад сялян, столькі вось ад інвалідаў. Законы павінны ствараць перш за ўсё людзі адукаваныя, аўтарытэтныя. Зараз жа галава засталася камуністычнай. А ўрад, наколькі я бачу, працуе. Коней на пераправе не мяняюць — банальна, але правільна.

*Валерый ВАРАНЕЦКІ, сакратар ЦК СМБ:*

— Што ў мяне баліць? Развал дзяржавы, эканомікі, культуры, духоўнасці. Каго абвінавачваю? Калі браць у агульным плане, вінаваты ўсе мы. Нам не хапае адказнасці за наш уласны лёс. Няма звычайнай культуры, няма разумення працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве. Калі канкрэтна — можна абвінаваціць урад былога Саюза, і цяпер — урад Расіі. Менавіта яны ў многім вызначылі эканамічную палітыку, якая амаль прывяла да голаду і прымусіла ўрады рэспублік ісці ў кільватэры сваіх рэформаў. Калі гаварыць пра крызіс улады, дык я лічу, што сёння змяняць Вярхоўны Савет — гэта не значыць дабіцца нейкіх змен у грамадстве. Але дэмакратычная форма выказвання грамадскай думкі — рэферэндум — у любым выпадку з'ява карысная. Калі ў мяне пытаюцца пра ініцыятыву адраджэння ВЛКСМ і ЛКСМБ — дык я гэта прадбачыў. Нельга вырашыць лёс арганізацыі простым перанайменнем. Цяпер і перад СМБ, і перад новаадроджаным ЛКСМБ стаіць задача знайсці сваё месца ў грамадстве. З палітычных падзей самай важнай лічу ініцыятыву Ельцына аб скарачэнні ядзернай зброі. Што яшчэ важна — знікае манаполія на палітычную дзейнасць, актывізуюцца левыя сілы, пачалося нарэшце духоўнае, патрыятычнае абуджэнне, вяртанне да гістарычнай памяці. А ў асабістым плане... у мяне нарадзіўся сын — што можа быць больш важным? Я веру, што ў нас не будзе дыктатуры, якая адбярэ ў яго свабоду, я веру, што ён толькі па маіх успамінах будзе ведаць пра гэты цяжкі непрадказальны час.

*Віктар ДУБОВІК, мастак-карыкатурыст:*

— Жыццё зараз неспакойнае, трывожнае. Здаецца, карыкатура — жанр далёкі ад песімізму. Але зараз смяяцца цяжка. Мае малюнкі друкаваліся ў многіх газетах. Газетах, якія зараз на мяжы закрыцця. Манапалізм вытворцаў паперы і распаўсюджвальнікаў прэсы заганяе друк у тупік. Асабліва цяжка маладзёжным ды дзіцячым выданням. Іх закрыццё б'е па адукацыі, па культурнаму ўзроўню будучых пакаленняў. Мы проста спынімся! На мой погляд, галоўнае ў апошні час — ініцыятыва БНФ аб правядзенні рэферэндуму. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь ператварыўся ў гаварыльню. Законы, якія ён прымае, амаль не абараняюць людзей. Яны старэюць, яшчэ не паспеўшы нарадзіцца. А што цікава — дык гэта тое, што людзі не замыкаюцца ў сваіх праблемах, не перакладаюць іх рашэнне на органы ўлады, а прымаюць непасрэдны ўдзел у палітычным жыцці. Наогул, нават мне, чалавеку далёкаму ад палітыкі, падалося, што ў рэспубліцы апошнім часам адбыўся выбух палітычнай актыўнасці.

Людзі смяяцца менш не сталі, хаця гэта сапраўды вельмі цяжка. Мы дапамагаем ім зарадзіцца аптымізмам — выпускаем газету "Ха-ха", дзе лепшыя карыкатурысты рэспублікі змяшчаюць свае малюнкі. Праўда, кожны кілаграм паперы прыходзіцца літаральна выбіваць. Але я спадзяюся, што наша грамадства выратуе толькі ўсмешка, не абыякавая, а шчырая, добрая, разлічаная на тое, каб перадацца жонцы, сябру, суседу. Тады будзем жыць.

# ХТО МАГІЛЬШЧЫК САЮЗА?

*У ланцугу падзей, якія праследуюць гістарычныя традыцыі і культуру беларускага народа, вядучая роля належыць дзяржаўнай сістэме бальшавізму, што называецца Савецкай уладай. Новы сацыяльны парадак стаў інструментам стварэння ўсесаюзнага працоўнага калектыву і арганізацыі яго пярвічных падраздзяленняў на месцах. Удзельнікі грамадскага калектыву атрымалі прапіску, правы і льготы калгасніка. Была створана дзяржава-калгас.*

*У гэту шматнацыянальную і шматпакутную калектыўную гаспадарку быў уцягнуты беларускі народ, г.зн. адбылося вядомае з гісторыі ўзбуйненне калгаса. Мінуў час. Рэспубліканскія падраздзяленні калгаса, аб'ектыўна маючы самастойны эканамічны і нацыянальны інтарэс у развіцці сваіх тэрыторый і дзяржаўнасці, парвалі працоўныя і маёмасныя адносіны з СССР або абвясцілі прыярытэт рэспубліканскіх законаў над саюзнымі.*

Альтэрнатывай распаду саюзнага калгаса стала яго ліквідацыя. Ролю ліквідатараў і магільшчыкаў Саюза выканалі самі рэспублікі.

Ліквідацыя саюзнай дзяржавы з'яўляецца юрыдычнай перадумовай для будучых эканамічных і палітычных блокаў. Але як бы там ні было, партнёрскае супрацоўніцтва дзяржаў, іх сумесная, а магчыма, і кааператыўная дзейнасць выключае калектывізацыю маёмасці, тэрыторый, грамадзянства і адказнасці за жыццё сваіх народаў.

Ці падрыхтавана рэспубліка пайсці на поўную ліквідацыю адміністрацыйнай сістэмы ўсесаюзнага і ўнутрырэспубліканскага калектывізму, змену савецкага дзяржаўнага ладу — пакажа час. Галоўнае, сёння ўсвядоміць, дайсці ўласным розумам, што ніякія пераўтварэнні ў сучасным і будучым немагчымы, калі застанецца адзінае міжрэспубліканскае і ўнутрырэспубліканскае калгаснае асяроддзе. Гэты вывад можна зрабіць з ніжэйпададзенага матэрыялу, прадстаўленага да публікацыі з адной толькі мэтай — зразумець, у якой сістэме гаспадаркі мы жывём і якія з гэтага павінны зрабіць практычныя крокі.

• КІРАВАННЕ. Усе функцыі кіравання народнагаспадарчым працоўным калектывам належаць заснавальнікам калектывісцкага дзяржаўнага ладу або іх правапераемнікам. Такімі з'яўляліся генеральны сакратар і Палітбюро ЦК КПСС — КПБ.

Страціўшы куратарства КПСС—КПБ, старшыня, ён жа Старшыня Вярхоўнага Савета і праўлення (яно ж Вярхоўны Савет) сталі легітымнай уладай калгаснай дзяржавы.

У дэмакратычным калгасе старшыня выбіраецца ўсенародна і публічна, нават з ліку некалькіх прэтэндэнтаў. Праўленне з'яўляецца калегіяльным органам па кіраванню грамадскай вытворчасцю і гэтым адрозніваецца ад буржуазнага парламента.

У складзе праўлення не прадугледжана пастаянная занятасць дэпутатаў. Дэпутацыя праўлення стварaецца, як правіла, з галоўных спецыялістаў калгаснай вытворчасці, вышэйшага і сярэдняга начальства і савецкіх работнікаў, якія заняты на сваіх працоўных месцах і збіраюцца разам для таго, каб выказаць калектыўную думку.

І тое, што ў сучасным складзе Вярхоўнага Савета муціць ваду калгаснікі-апазіцыянеры з БНФ, хутчэй выключэнне, чым правіла.

Разам са старшынёй і праўленнем усю паўнату ўлады раздзяляюць цэнтральныя і мясцовыя бухгалтэрыі: урад, абл- і райвыканкамы. Яны арганізуюць клопаты аб быце і вольным часе замацаваных за імі калгаснікаў, размяркоўваюць матэрыяльныя рэсурсы, вядуць рэгістрацыю прыватнага сектара.

Для арганізацыі грамадскай вытворчасці калгас-рэспубліка адкрывае вытворчыя падраздзяленні, якія называюцца ў нас прадпрыемствамі, назначаюць (выбіраюць) дырэктараў, якія б сядзелі на кучы калгаснага дабра і сачылі за тым, каб яго не расцягвалі. Калгаснікі-ўпраўленцы, калгаснікі-загскладамі і базамі, радавыя калгаснікі — кожны з іх займае сваю нішу са сваімі прывілеямі і льготамі. Тыя, каму мала выпала ад калгасных размеркавальнікаў, абгрунтавана злуюць на таварышаў па адзінаму працоўнаму калектыву.

Сувязным звяном паміж вытворчымі падраздзяленнямі калгаса і цэнтральнай бухгалтэрыяй выступаюць ведамствы. Іх дзейнасць, шчыра кажучы, ахутана змрокам, які часткова рассейваецца пасля якой-небудзь чарговай рэарганізацыі. Вось і зараз нам кажуць, што ведамствы і міністэрствы ўжо не тыя, іх функцыя цяпер не камандзіраў, а каардынатараў, бо калгасная грамадская вытворчасць патрабуе не кіравання, а каардынацыі.

Сістэма кіравання сельскагаспадарчымі і прамысловымі працоўнымі калектывамі патрабуе строгай іерархіі і сападпарадкаванасці нізоў вярхам. Гэта краевугольны камень ідэі калектывізму. Варта яго зрушыць, як пярвічныя працоўныя калектывы, вялікае і дробнае кіраўніцтва пачынаюць праяўляць свой матэрыяльны "эгаізм", які ў канчатковым выніку выліваецца ва ўсеагульную безадказнасць, казнакрадства і невыкананне ўказаў вярхоўнай улады.

• ГРОШЫ. Занятасць у грамадскай і індывідуальнай гаспадарцы калгаса аплачваецца рублямі, а калі дакладней — бонамі, саўзнакамі, з якімі калгаснік наведвае камерцыйныя і дзяржаўныя гандлёвыя кропкі.

Адзін час у сельскай гаспадарцы калгаснікі не мелі саўзнакаў і ў конт працы атрымлівалі прадукты, якія потым абменьвалі. Калі плацілі натурай, а не саўзнакамі, у кожнага калгасніка была свая мера спажывання. Саўзнакі, можна сказаць, унеслі негатыўны момант у натуральную калектыўную гаспадарку, бо мера ўласнага выдаткавання паступова выраўноўвалася незалежна ад працоўнага ўкладу калгаснікаў. Больш таго, фокусы з калгаснай бухгалтэрыяй адкрылі новыя магчымасці да лжэпрыбыткаў і казнакрадства.

**У калгаснай эканоміцы грошы несумяшчальныя з прыватным гандлем і камерцыяй. Калі вытворчыя падраздзяленні калгаса пачынаюць свабодна гандляваць, мінаючы пасрэдніцкае месца калгаса, а калгаснікі думаюць аб прыбытку, цэнах, выгадных пагадненнях, каб аплаціць свае працазатраты, настае паступовы развал грашовай сістэмы. Цэнтральная бухгалтэрыя страчвае кантроль над грашовай масай, у звароце гуляюць незабяспечаныя таварам грошы, грошы-прывіды, грошы-мутанты.**

Цэнтральная бухгалтэрыя, г.зн. калгаснае кіраўніцтва павінна не забываць простую ісціну: у калектывісцкім грамадстве камерцыя, так званы гасразлік, казнакрадства, дагаворныя і іншыя нефармальныя адносіны падраздзяленняў і грамадзян згубныя для грошай-бонаў, а значыць для ўсяго грамадскага размеркавання і гандлю.

Яшчэ больш згубны для савецкай грашовай сістэмы гандаль за СКВ. Валюта абясцэньвае рубель з маланкавай сілай. Просты калгаснік са сваім мізэрным пайком не мае здольнасці канкурыраваць з цэнамі, у якіх кошт валюты або камерцыйная цана — эквівалент валюты на прыкалгасным рынку.

Урад, які дапускае бескантрольную стыкоўку валюты і рубля, продаж тавараў за СКВ, капае яму пад калгаснай вытворчасцю. У адзіным міжкалгасным асяроддзі Беларусі дапамагаюць капаць яму іншыя старшыні калгасаў, тыя, хто актыўна падтрымлівае камерцыйныя і валютныя аперацыі. У гэтай справе дасягае вялікіх поспехаў Масква — цэнтр камерцыйнай дзейнасці, карумпіраванасці калгаснага і валютнага бізнесу.

Раздзяленне саюзнага калгаса па-новаму ставіць праблему саўзнакаў і выжывання Рэспублікі Беларусь. Пры адзінай грашовай прасторы, пры ўсім сваім жаданні асобна ўзятая дзяржава былога Саюза не зможа захаваць або павялічыць меру асабістага расходавання сваімі грамадзянамі. Так, калі ў адным калгасе на адзін працадзень могуць выдаць на 100 руб.прадуктаў, а ў другім на 20, то калі карыстацца адзінай грашовай сістэмай, усім атрымаецца па 60 руб. Адбудзецца ў лепшым выпадку гандаль па картках, а ў горшым — знясіленне і развал унутрыкалгаснага спажывання.

Для беларускага ўрада, цяперашняга або будучага, застаецца адзін шлях — шлях увядзення ўласнай нацыянальнай валюты. Гэта вельмі адказны і мужны крок, бо ён мяркуе знішчэнне калгаснай сістэмы вытворчасці і савецкага дзяржаўнага ладу.

**Ул.Лемех, эканаміст.**



Дзеянні беларускага ўрада, здараецца так, выклікаюць дзеянні ў адказ з боку таго ці іншага слоя насельніцтва, на які і было скіравана новае рашэнне кіраўніцтва. Прыкладаў прыводзіць можна шмат. Апошнім з гэтага доўгага спіса стала асамблея дзелавых колаў Рэспублікі Беларусь, што адбылася 1 лютага 1992 года.

На яе сабраліся прадстаўнікі незалежных структур вытворчасці і бізнесу і вольныя прадпрымальнікі. А асноўнай нагодай гэтай сустрэчы стаў закон РБ аб новай сістэме падаткаабкладання. У рэзалюцыі, якую прынялі прысутныя, гаворыцца:

1. Новая сістэма падаткаабкладання падрывае асновы толькі што народжанага прадпрымальніцтва вельмі высокімі падаткамі (12 працэнтаў падаткаў, што фактычна блакіруе расшырэнне фондаў развіцця вытворчасці.

2. Ва ўмовах некантралюемага росту цэн яна аказвае моцны ўціск на працоўных праз падаходны падатак, што не дае ім магчымасці ўдзельнічаць у працэсе прыватызацыі.

3. Фактычна яна падрывае падатковую базу бюджэту, альбо разараючы прадпрымальнікаў, альбо падштурхоўвае іх да супрацьзаконных аперацый па ўтойцы прыбыткаў.

4. У цэлым супярэчыць абвешчанай праграме стварэння рыначнай эканомікі.

На асамблеі выступіў прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь В.Ф.Кебіч. Але паразумення з прадпрымальнікамі ён так і не знайшоў. У людзей вольнага бізнесу свае прапановы на гэты конт. Яны лічаць, што тэрмінова неабходна распрацаваць новую сістэму падатковых законаў, у аснову якіх павінна быць закладзена кампенсацыйная мадэль, павінна быць замацавана верхняя мяжа сумарнага падатку (на прадпрыемства – 20 працэнтаў ад прыбытку, на банкі і біржы – 35 працэнтаў), і ўсе формы так званых надзвычайных падаткаў не павінны перавышаць 5 працэнтаў прыбытку. Такім чынам, усе віды падаткаў не павінны перавышаць 25 працэнтаў прыбыткаў прадпрыемства і г.д. (усяго шэсць пунктаў).

Рэспубліка вырашыла ісці ад эканомікі планавай да эканомікі рыначнай, а значыць і рабіцца павінна ўсё, каб стымуляваць вытворцу тавараў народнага спажывання. Няўжо ўрад на прыслухаецца да іх прапаноў і на гэты раз?

Фота С.Грыца.



# "ВАША МЕСЦА — НА ВУЛІЦЫ!"

## – прыкладна так разважае Міністэрства адукацыі

Прывыкшыя да бясплатнай адукацыі і медыцыны, мы з цяжкасцю і занепакоенасцю сочым за стварэннем платных клінік, каледжаў і іншымі новаўвядзеннямі, якія ўсё жыццё асацыіраваліся толькі з "іх" капіталістычным ладам жыцця. Адначасова адбываецца падзел на багатых і бедных, на тое, што для нас, і тое, што нам ужо не па кішэні. І калі я на сваім факультэце журналістыкі пачуў з вуснаў дэкана аб жаданні адкрыць платнае аддзяленне факультэта, дзе за грошы будуць навучацца тыя, хто не здолеў набраць неабходную колькасць балаў для паступлення на дзяржаўныя курсы, успрыняў гэта як нешта даволі смешнае. Маўляў, — за грошы з уласнай кішэні галава будзе працаваць лепш. Толькі смех смехам, а жыццё (чытай — рынак) бярэ сваё. І калі я ўбачыў інструкцыю Міністэрства адукацыі, што лягла на стол прарэктара Белдзяржуніверсітэта імя Францішка Скарыны Малевічу, мне стала не да смеху. Што ж гэта за інструкцыя?

Міністэрства адукацыі прапаноўвае рэктарату універсітэта разгледзець пытанне аб перайменаванні студэнцкіх інтэрнатаў у студэнцкія гасцёўні. Розніца, здаецца, невялікая. Але не. Усё больш складана, чым здаецца на першы погляд. Калі гэта студэнцкія гасцёўні — то за пражыванне ў іх неабходна плаціць грошы. У інструкцыі названа лічба — 8 рублёў у суткі, 240 рублёў у месяц. Для студэнта, у якога стыпендыя ўсяго 420—450 рублёў.

Як растлумачыла мне ў прыёмнай рэктара прывабная сакратарка — гэта яшчэ толькі прапанова Міністэрства адукацыі.

— І хто будзе вырашаць гэтае пытанне?

— Зараз мы займаемся распаўсюджаннем гэтай інструкцыі сярод дэканаў факультэтаў. Тыя, пасля таго, як азнаёмяцца з прапановай, выкажуць свае меркаванні альбо дапаўненні і будуць вырашаць на сходзе, як быць, — растлумачыла мне прывабная сакратарка.

— І чым усё гэта можа скончыцца?

— Чакаць можна ўсяго.

Не ведаю, што сабе думаюць у Міністэрстве адукацыі, што выкажуць на сходзе дэканаў факультэтаў, але ведаю, што гавораць на гэты конт студэнты.

Арцём Палонскі, 1 курс:
— Той стыпендыі, што сёння нам плацяць, ледзь-ледзь хапае на харчаванне. Яшчэ, дзякуй Богу, інтэрнат ёсць. А калі давядзецца плаціць палову стыпендыі за пражыванне — як быць, дзе браць грошы — у бацькоў? Мне сорамна. Вось і застаецца: альбо туліцца па пад'ездах, альбо галадаць, альбо выходзіць супраць такога кіраўніцтва, якое не думае пра сваю моладзь.

Таня Ждановіч, 4 курс:
— Гэта проста жах. Куды падацца з дзіцем і мужам, таксама студэнтам, на што жыць?

Вось так, паважаныя дзядзечкі з Міністэрства адукацыі. Нават і не ведаю, што вам параіць... Выйдзіце са сваіх кабінетаў, азірніцеся вакол — няўжо ў вас хопіць сумлення выкінуць студэнтаў на вуліцу?

**Зм.Лукашук.**

# МЫ НЕ ЛАСЫ НА КАЎБАСЫ

У Слуцку на прылаўках магазінаў мяса і каўбасу сустрэнеш таксама рэдка, як і ў іншых гарадах рэспублікі, хоць тут знаходзіцца адзін з буйнейшых мясакамбінатаў Беларусі. У чым жа справа? А справа ў тым, што дзейнічае славутая адміністрацыйна-размеркавальная сістэма ва ўсёй сваёй красе. Прадпрыемствы маюць 100-працэнтны дзяржзаказ. Гэта значыць, свабодна прадаваць сваю прадукцыю прадпрыемства не мае права. Куды, колькі і каму размяркоўваецца ў чыноўніцкіх кабінетах. Гэта не было выгадна і раней, а з прыходам рынку — тым больш. Некаторыя спажыўцы пачалі вяртаць дарагія мясныя вырабы, іншыя проста адмаўляюцца браць, а змяніць рынак збыту прадпрыемства не мае права. Адбываецца спад вытворчасці. У мінулым годзе скарачэнне выпуску склала трыццаць працэнтаў, у гэтым годзе з-за змяншэння попыту чакаецца яшчэ столькі ж. У перспектыве мясакамбінат можа стаць банкрутам, яго рэнтабельнасць складае ўсяго чатыры працэнты. Дзяржаўную датацыю за сваю прадукцыю прадпрыемства ніяк не можа атрымаць, крэдыты выдаюцца па 25 працэнтаў гадавых.

Калі не даць такім прадпрыемствам хоць крыху эканамічнай свабоды, мы можам зусім забыць, як выглядаюць мяса і каўбаса.

Фота і тэкст С.БРУШКО.











# Вундэркінд схаваны ў кожным

*"Вундэркінд" у перакладзе з нямецкай мовы — "цудоўнае дзіця" ці высокаадоранае дзіця. Сучасныя дзеці развіваюцца так рана, амаль што не з пялёнак, і праяўляюць дзівосныя здольнасці.*

Высокаадораныя дзеці сустракаліся заўсёды і ўсюды, сустракаюцца яны і ў наш час. Нярэдка хлопчыкі ў 13-14 гадоў заканчваюць сярэднюю школу і паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы, пішуць кнігі ці гуляюць у шахматы. Самым юным пісьменнікам на зямлі стаў Алекс Вільямс. Ён у сямігадовым узросце напісаў навукова-фантастычны раман аб прыгодах робатаў. Гэта кніга стала бестселерам у Вялікабрытаніі. А маленькая балгарка Антуанета Стэфанава, навучыўшыся ў чатырохгадовым узросце гуляць у шахматы, у шэсць гадоў стала кандыдатам у шахматныя майстры: на яе рахунку нямала цяжкіх перамог над майстрамі сусветнага класа. Яна марыць заваяваць тытул чэмпіёнкі Балгарыі.

Дзівосную здольнасць лёгка і цвёрда запамінаць убачанае і пачутае праявіў бакінец Косця Славін, калі яму было два гады. Дзіцячыя кубікі з літарамі і азбуку ён асвоіў за некалькі дзён, адначасова вучыўся гаварыць, чытаць і пісаць. У пяць гадоў Косця ўжо быў школьнікам і за два гады скончыў чатыры класы. Пасля завяршэння з залатым медалём сярэдняй адукацыі (ва ўзросце 13 гадоў) ён у 1982 г. стаў студэнтам Азербайджанскага медыцынскага інстытута, а ў 1989 г. скончыў ардынатуру. Маці Косці лічыць, што яе сын — звычайнае дзіця, у сям'і стараліся развіць яго прыродныя здольнасці, сістэматычна займаліся з ім. Рэдкае спалучэнне цудоўнай памяці з дапытлівасцю і ўседлівасцю адзначалі назіраўшыя за Косцем медыкі і педагогі.



Ва ўзросце 13 гадоў Даніла Пігілаў з падмаскоўнага горада Падольска ў 1987 г. стаў самым маладым студэнтам факультэта журналістыкі МДУ. У сем гадоў ён быў прыняты адразу ў трэці клас, здаў экстэрнам за чацвёрты і пачаў вучыцца ў пятым класе, тым самым з'эканоміўшы некалькі гадоў. У вольны ад вучобы час у сярэдняй школе ён шмат чытаў, часта наведваў літаратурна-музычныя вечары, музеі, выставы, лекцыі, прымаў удзел у розных алімпіядах, пісаў нарысы, п'есы, казкі. Скончыў школу з залатым медалём.

Права называцца студэнтам вышэйшых навучальных устаноў атрымалі ў апошнія гады 14-гадовыя Алёша Падабедаў з Варонежа і Міхаіл Гелашвілі з Тбілісі, 15-гадовы Рустэм Балiулін з Казані, 15-гадовая Леся Кыбчанка з Запарожжа. А два браты з Майкопа — 13-гадовы Андрэй і 15-гадовы Мікіта Баркіны — у 1988 г. былі прыняты на першы курс фізфака МДУ: Андрэй рана захапіўся астраноміяй, а Мікіта — радыётэхнікай і квантавай фізікай.

Да вышэйадзначанага трэба дадаць, што аўтар бессмяротнай камедыі "Гора ад розуму" А.С.Грыбаедаў паступіў у Маскоўскі універсітэт у 1806 годзе ва ўзросце 11 гадоў, а ў 13 — здаў першы экзамен на атрыманне вучонай ступені кандыдата славесных навук.

А вось самым юным студэнтам у Югаславіі стаў 10-гадовы Міядраг Мочыч. Ён быў прыняты на прыродазнаўчы факультэт Бялградскай педагагічнай акадэміі. Міядраг пачаў гаварыць у 7 месяцаў, навучыўся чытаць, калі яму споўніліся 22 месяцы. У тры гады малыш узяўся за папулярную кнігу па хіміі. Да моманту паступлення ў акадэмію таленавіты хлапчук правучыўся чатыры гады ў школе і прайшоў за гэты час усю праграму СШ.

Дзяўчынкі таксама не адстаюць ад хлапчукоў. На "выдатна" здала экзамен па матэматыцы 10-гадовая англічанка Рут Лорэнс і была ў ліпені 1981 г. залічана ў сусветна вядомы Оксфардскі універсітэт. У Рут з ранняга дзяцінства выявіліся рэдкія здольнасці да матэматыкі, якія спалучаліся з вялізнай працаздольнасцю. Дзяўчынка ніколі не хадзіла ў школу. З дапамогай бацькоў, спецыялістаў па вылічальнай тэхніцы, яна займалася дома і скончыла сярэднюю школу ў дзевяць гадоў, а праз год стала самай маладой студэнткай універсітэта. Акрамя матэматыкі, Рут захаплялася гісторыяй, геаграфіяй, англійскай мовай і ігрой на піяніна. У ліпені 1985 г. ва ўзросце 14 гадоў Рут Лорэнс, як адзначана ў "Кнізе рэкордаў Гінэса", скончыла універсітэт з дыпломам першай ступені і найлепшымі адзнакамі.

Японскія радыёаматары нядаўна былі здзіўлены, калі даведаліся, што пяцігадовая Іцука Мацунага атрымала дыплом радыёаматара, які дае ёй права працаваць у эфіры. А каб зарабіць гэты дыплом, трэба не толькі мець моцныя веды па матэматыцы і фізіцы, але ўмець кіраваць складанай электроннай і радыёапаратурай.

Вывучэнне іерогліфаў з'яўляецца для кітайца складаным і працаёмкім працэсам. Лічыцца вельмі добрым вынікам, калі вучань першага класа пачатковай школы авалодвае чатырма сотнямі іерогліфаў. Як жа здзівіліся бацькі маленькай Шан Ліцзюань — простыя сяляне адной з кітайскіх правінцый, калі заўважылі, што іх дзіця, ледзьве пачаўшы хадзіць, сур'ёзна захапілася іерогліфамі. Дзядуля падтрымаў гэта захапленне. Ужо ў 2 гады і 3 месяцы дзяўчынка справілася з "нормай" першакласніка. Спецыялісты гавораць, што вялікі мысліцель старажытнага Кітая Канфуцый у дзіцячыя гады ведаў іерогліфаў нашмат менш, чым маленькая Шан.

Бацькі ўсіх дзяцей, якіх лічаць высокаадоранымі, заўсёды і ўсюды падкрэсліваюць, што іх дзеці надта ўжо не адрозніваюцца ад сваіх равеснікаў: захапляюцца рухавымі гульнямі, вельмі любяць спартыўныя і музычныя перадачы, наведваюць клубы "Юны тэхнік" ці "Юны натураліст", ходзяць у музеі, тэатры, на выставы, удзельнічаюць у конкурсах і алімпіядах.

Адзіны, бадай, дадатак да дзіцячага садка ці школы — гэта заняткі з бацькамі, бабулямі і дзядулямі.

Вундэркінд дрэмле ў кожным дзіцяці — лічаць бацькі, педагогі і... кааператары: у многіх гарадах з'явіліся кааператывы, дзе адораныя дзеці па строга навуковых праграмах і з дапамогай камп'ютэраў становяцца ў кароткія тэрміны яшчэ больш развітымі, эрудзіраванымі.

У 1989 г. зацверджаны Усесаюзны дабрачынны фонд "Інтэлект". Яго задача — пошукі адораных дзяцей і аказанне дапамогі ў развіцці іх талентаў. У інстытуце агульнай і педагагічнай псіхалогіі АПН СССР створаны "Цэнтр творчай адоранасці". Пры Савецкім дзіцячым фондзе імя Леніна створана Асацыяцыя дапамогі адораным дзецям, выплачваюцца стыпендыі.

З вялікім спазненнем, здаецца, настае час, калі становіцца ясна, што выйграе тая краіна, дзе ведаюць цану таленту і імкнуцца забяспечыць яму ўмовы для найбольш поўнай рэалізацыі.

*Аляксандр Архіпаў ("Новая строительная газета"). г.Масква.*

# СЦЯРВЯТНІКІ

*З даўніх часоў першымі на поле бітвы з'яўляліся сцярвятнікі. Скванпа, з бойкамі паміж сабой спяшаліся яны ўрваць свой "кавалак", каб набіць сваё чэрава тым, што загінула пад жахлівай касой смерці. З даўніх часоў амаль адначасова з крылатымі і чатырохногімі драпежнікамі з'яўляліся двухногія. Гэта тыя, хто ніколі не ўдзельнічаў у бітвах, а нібы зграі ваўкоў хадзілі па слядах войск і падбіралі ўсё, што засталося. Гэта тыя, хто рабаваў забітых, хто вытрасаў кішэні мёртвых, хто дабіваў параненых (бо такім не патрэбны сведкі). Гэта марадзёры.*

Даўно ўжо не палае на нашай зямлі полымя войнаў. Амаль паўстагоддзя жывём мы ў міры. Але не перавялося неўміручае племя двухногіх сцярвятнікаў. Як і раней, злятаюцца яны на месцы былых баёў, на месцы, дзе пахаваны загінуўшыя як у апошняй, так і ў больш ранніх войнах ваяры. Як і раней, імкнуцца яны ўрваць сабе хоць штосьці ад тых, хто загінуў. Толькі зараз завуць іх інакш — чорныя следапыты. Так-так, следапыты. Але не чырвоныя. Не тыя, якія праводзяць злёты, вахты памяці. Не тыя, хто імкнецца вырваць у невядомасці імёны абаронцаў Радзімы. Так, яны таксама вывучаюць мемуарную літаратуру, даследуюць архівы, апытваюць мясцовае насельніцтва ў час падрыхтоўкі. Але мэта ў іх зусім іншая. Не пачуцці родных загінуўшых іх хвалююць, не магчымасць аднавіць лёсы абаронцаў Радзімы. Іх цікавіць адно — трафеі. Хтосьці можа сказаць — ды што там знойдзеш? Калі што было на тых нашых ды нямецкіх салдатах, дык даўно спарахнела. Адкажу — шмат чаго можна знайсці. І ўзнагароды (ордэны ды медалі як нямецкія, так і савецкія амаль свабодна прадаюцца-мяняюцца), і рэчы з каштоўных металаў, і зброю, і рэшткі амуніцыі. А ўсё гэта грошы. Нямецкія ж нашыйныя жэтоны (аналагі нашых "смяротных" медальёнаў) за мяжой прадаюцца за валюту. Прычым каштуюць яны вялікіх тамтэйшых грошай.

Шмайсер, герой змешчанага ў 1990 годзе ў адным з нумароў "Комсомольской правды" артыкула А.Чумакова "Крестоносцы", сказаў пры сустрэчы з журналістам: "Нашых магіл мы не чапаем. Ды і браць там няма чаго". Чумакоў не паверыў яму, і нездарма. Ён сам бачыў пакінутую магілку нашага салдата. Сам бачыў жудасны "памятны знак" трафейшчыкаў — насаджаны на шост чэрап з савецкай каскай.

Не раз даводзілася бачыць сляды марадзёраў і аўтару гэтага артыкула. Памятаю дні Усесаюзнай вахты памяці, што праходзіла ў мінулым годзе ў Віцебскім раёне. Не раз сутыкаліся мы з "вынікамі" іх дзейнасці. Сустракаліся іх сляды і на той тэрыторыі, на якой у гады вайны размяшчаўся найбольш па колькасці знішчаных вязняў на тэрыторыі былога Савецкага Саюза Трасцянецкі канцлагер. А ва ўрочышчы Благавішчана (тым самым, у страшных ірвах якога ўтрамбоўвалі трактарам тысячы расстраляных савецкіх і замежных грамадзян) сустракаюцца не толькі шурфы ды ямы, а цэлыя траншэі, выкапаныя гэтымі "скарбашукальнікамі". Праўда, тут шукаюць не "жалезныя крыжы" ды не спражкі ад рамянёў з надпісам "Gott mit uns", а золата і каштоўнасці, якія захоўваліся ў расстраляных. Марадзёры літаральна заглядваюць у зубы кожнаму загінуўшаму з надзеяй: "А раптам ёсць залатыя?". І няма для гэтых людзей (а дакладней нелюдзяў) нічога святога. І не палохае іх нічога — ні страх перад законам, ні сумленне. Ды і аб якім сумленні можа ісці гаворка, калі нават на асвечанай і адпетай зямлі Курапатаў "працуюць" яны. Так-так, усяго ў нейкіх 50-70 метрах ад мемарыяльнага знака раскапана зямля. Навокал ям параскіданы косткі.

І страху перад пакараннем у сцярвятнікаў няма. Бо хто іх можа спыніць? Людзі, прыйшоўшыя пакланіцца памяці бязвінных ахвяр часу культу ўсеагульнага правадыра і настаўніка? Што яны, нават калі ўбачаць, змогуць зрабіць. Міліцыя? Стварэецца ўражанне, што ў тых жа Курапатах яе прадстаўнікі дзяжураць толькі пад час памінальных мітынгаў. І наогул, праблема трафейшчыкаў хвалюе, здаецца, толькі невялічкую колькасць людзей. Хвалюе яна толькі пошукавікаў І нядзіўна, бо менавіта ім найбольш часта даводзіцца сустракацца са слядамі "дзейнасці" марадзёраў. Гэта пошукавікі рызыкуюць сутыкнуцца як-небудзь з імі твар у твар. Хто ведае, чым скончыцца такая сустрэча. (Быў ужо выпадак, калі "скарбашукальнікі" выкарысталі зброю. Толькі якімсьці цудам сярод пошукавікаў не было забітых). Гэта пошукавікі ведаюць, што трафейшчыкаў цікавіць толькі тое, што можна ператварыць у грошы. Усё ж астатняе выкідваецца, знішчаецца. І знікаюць апошнія магчымасці даведацца штосьці пра салдат ці вязняў канцлагера, ахвяр НКУСа. Гіне пад іх рыдлёўкамі і сквапнымі рукамі памяць.

Памыліцца той, хто падумае, быццам трафейшчыкі з'явіліся ў апошні час. Гэта далёка не так. Марадзёры існавалі заўжды. Але зараз гэты "промысел" расквітнеў. Самае ж дзіўнае тое, што, паводле звестак аўтара гэтых радкоў, за апошнія гады не быў знойдзены і не панёс пакаранне ні адзін з прадстаўнікоў гэтай жудаснай "прафесіі".

Зараз якая ні ёсць, а зіма. У трафейшчыкаў мёртвы сезон. Але яны не адпачываюць. Яны сядзяць у бібліятэках, праводзяць разведку і рыхтуюцца да пачатку актыўных дзеянняў. Калі ж сонейка згоніць снег, калі зямля прагрэецца — настане іх час. "Рыцары нажывы" выйдуць на "ціхае паляванне". Бы крумкачы, пачнуць "злятацца" яны на месцы былых баёў, на месцы, дзе знаходзіліся канцлагеры. Сцярвятнікі зноў будуць імкнуцца ўхапіць кавалак, насыціцца на чужым горы. Хто ж спыніць іх?

**М. Багадзяж.**

# ДУБ-НАШЧАДАК

З пня дрэва не вырасце. Ісціна. Патрэбны новыя пасадкі.

І ён быў пасаджаны. Тоненькі, па-дзіцячаму яшчэ кволы дубок. А паявіўся ён на гэты свет у неймаверна цяжкі для роднай зямлі час — час фашысцкай навалы, у партызанскім лесе.

А непадалёк у партызанскай вёсцы стаяў вартавым-волатам магутны дуб-велікан. Шмат пабачыў ён на сваім вяку, быў тутэйшым людзям і надзеяй, і аховай. Радасна шапацеў лісцем, калі вяселіліся вяскоўцы, калянымі станавілася ўбранне яго, калі гаравала родная старонка. У яго, нібыта ў старога салдата, часта нылі раны, нанесеныя коп'ямі, кулямі, асколкамі. Але ён трываў, жыў, натхняў, усяляў упэўненасць у людзей у самую тужлівую гадзіну. І ўдзячныя палешукі бераглі свой дуб.

І вось яшчэ адна вайна. Айчынная, грымотная, крывавая, бязлітасная. І дрэва як магло памагала людзям. Вершаліну сваю расправіла, каб ямчэй уладкаваліся на ёй партызанскія назіральнікі, каб яшчэ здалёк угледзелі ворага.

Фашысты бомбамі і снарадамі дратавалі яго, з усіх сіл стараліся зваліць дуб. Балюча секлі яго асколкі, упіваліся ў шурпатую кару кулі. Ён цярпеў, выгляду не падаваў, што і яму цяжка.

Адышла навала, вярнуўся мір на знявечаную, шматпакутную зямлю. Жыць бы цяпер ды жыць. Але Дуб, які мужна трымаўся ў самых жорсткіх сітуацыях, знясілеў. Людзі імкнуліся выратаваць яго. Ён жа засыхаў, засыхаў, жыццё патухала ў ім. Пераможнай вясны ён ужо не ўбачыў, не адгукнуўся на цяпло зелянінай лістоты.

І тады ўдзячныя земляркі вырашылі: няхай помнікам Дубу і ўдзячнасцю людской будзе малады дубок. Прынеслі яго з лесу і пасадзілі ў расшчэплены шырокі пень. Дрэўца, нібы пяшчотнымі далонямі заслоненае ад бур і нягод, хутка расло, набіралася моцы. Яго жыватворныя карані ўсё мацней і глыбей перапляталіся са спачыўшымі каранямі волата. Святлелі людскія твары пры сустрэчы з юным, каржакаватым дубком: жыве, цягнецца ўвесь. А як падобен на свайго папярэдніка!

Аднойчы спякотным сухім летам з дрэўцам нешта здарылася: пачало яно чахнуць на вачах, пажоўкла, пакруціласа лісце. Жанчыны-калгасніцы пабеглі да старшыні: з дубком дрэнна. Усёй вёскай выхаджвалі хворага. Штодзень удосталь паілі яго крынічнай вадой, аграномы склалі рэцэптуру лекаў. Рабочы дзень у калгасе "Рассвет" Любанскага раёна пачынаўся з падрабязнай інфармацыі аб стане дрэва.

Неўзабаве ўсе ўздыхнулі з палёгкай. Дубок пакрысе весялеў, скінуў з сябе хваравітую пажоўкласць.

Цяпер ён такі — шырокі, з магутным ствалом, разлапісты. У спякоту дуб-наследнік клапатліва ахінае людзей гаючай прахаладай, любяць пасядзець у яго засені сталыя і малыдыя. А дзятве не забараняецца тут і крыху пасваволіць.

**М.Асаёнак.**
**Фота А.Басава.**



*Ад лютага зіма збягае цёмнымі начамі.*

*Студзень упусціць — люты падбярэ.*

*Як у лютым адгукнецца, так у жніўні адзавецца.*

## РОДНЫ КРАЙ

# ЛЮТЫ

**2. Нядзеля.**

1838 — нарадзіўся Кастусь Каліноўскі (1838-1864), нацыянальны герой беларускага народа.

**5. Серада.**

340 гадоў назад (1652) мястэчка Капыль атрымала магдэбургскае права.

**7. Пятніца.**

430 гадоў назад (1562) М.Кавячынскі і Л.Крышкоўскі пад кіраўніцтвам С.Буднага заснавалі Нясвіжскую друкарню — першую ў межах сучаснай тэрыторыі Беларусі друкарню, якая карысталася кірылаўскімі шрыфтамі і выдала творы С.Буднага "Катэхізіс" (першая на Беларусі кніга на беларускай мове) і "Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам".

**З НАРОДНАГА ГУМАРУ**

Два будаўнікі пачалі будаваць лазню. Справа дайшла да памоста. Адзін кажа: "Давай пагаблюем дошкі". А другі адказвае: "Калі пагаблюем ды яшчэ вады нальюць, тады стане склізка і хто-небудзь паваліцца".— "Давай пакладзём не габляваўшы",— кажа другі. Першы адказвае: "Яшчэ хто-небудзь нагу заскабіць".

І зрабілі так: дошкі пагаблявалі, але паклалі габляваным уніз.

**13. Чацвер.**

90 гадоў з дня нараджэння С.А.Хурсіка (1902-1972), беларускага пісьменніка.

**15. Субота.**

ГРАМНІЦЫ (СТРЭЧАННЕ ІСУСА ХРЫСТА)

На саракавы дзень пасля Ражства маленькага Хрыста прынеслі ў Ерусалімскі храм. Яго сустрэў старац Сімяон, якому было прадказана Духам Святым, што ён не ўбачыць смерці, пакуль не ўбачыць Хрыста Гасподня. Узяўшы немаўля на рукі, старац прызнаў у ім збавіцеля. Народ тлумачыў назву свята як стрэчу зімы з вясною.

*А ў нас сёння Стрэчанне, Стрэчанне.*
*Зіма з летам стрэлася, стрэлася,*
*Лета зіму піхнула, піхнула*
*І ножачку звіхнула, звіхнула.*
*Зіма пайшла плачучы, плачучы,*
*Лета пайшло скачучы, скачучы.*

Другая назва свята, як мяркуюць, пайшла ад язычніцкага бога Грамаўніка, якому прыпісвалася ўтварэнне веснавых навальніц і даждžоў. Пасля гэтага дня павінна была ўпасці ўлада змрочных бостваў зімы: "На Грамніцы — паўзіміцы" або "Як прыйдуць Грамніцы — скідай рукавіцы". Гэта пераломнае свята звязана з шэрагам метэаралагічных прыкмет: "Калі на Грамніцы певень з-пад страхі нап'ецца вадзіцы, то на Юр'я (6 мая) вол пад'есць травіцы". Калі ж на Грамніцы здараўся вялікі мароз, то снег павінен быў праляжаць надоўга, а вясна і лета не абяцалі нічога добрага. Грамнічная мяцеліца прадказвала, што вясна затрымаецца даўжэй, чым звычайна. Рэзкае пацяпленне не абяцала прыбытку на полі і ў агародзе: "На Грамніцы адліга — з ураджаю будзе фіга". Пры адсутнасці адлігі можна было спадзявацца на пагоднае, сухое лета. На Беларусі гэтае свята было знамянальна такім абрадам, як асвячэнне свечак у царкве. Грамнічныя свечкі (або проста "грамніцы") асабліва шанаваліся ў народзе — іх запальвалі з вераю ў іх дапамогу пад час навальніц, каб маланка не спаліла хату; іх давалі цяжка хвораму ў час канання, каб полымя асвятляла яму шлях на той свет, ачышчала душу ад грахоў. Жыло ў народзе перакананне, што грамнічных свечак баіцца нячыстая сіла, таму і вешалі іх ля ўваходу ў хлеў ці на стайню, каб ведзьмы не адабралі ў кароў малака і не заездзілі коней.

Уладзімір Васілевіч.

роднае слова

1840 1900

Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі... Ф. Багушэвіч

**16. Нядзеля.**

90 гадоў з дня нараджэння Р.Д.Мурашкі (1902-1944), беларускага пісьменніка.

**18. Аўторак.**

70 гадоў з дня нараджэння (1922) М.А.Савіцкага, беларускага жывапісца, народнага мастака СССР.

**20. Чацвер.**

420 гадоў назад (1572) у мястэчку Лоск (Валожынскі раён) заснавана друкарня, якая працавала да 1592 года.

70 гадоў з дня заснавання (1922) у Мінску Інстытута беларускай культуры (у 1929 г. рэарганізаваны ў АН БССР).

**26. Серада.**

80 гадоў з дня нараджэння У.Б.Карпава (1912-1977), беларускага пісьменніка.

60 гадоў з дня выхаду (1932) першага нумара газеты "Літаратура і мастацтва".

**27. Чацвер.**

380 гадоў назад (1612) пачала актыўна працаваць Любчанская друкарня (Навагрудскі раён).






**Святая зямелька корміць нас і ўсякага звера; носіць на сваіх плячах, ніколі не наракаючы, не стогнучы, а як Бог пашле смерць, то яна прыгорне і не гідзіцца, калі нас чэрві точаць.**

**Маці зямля ўсё прымае, а найбольш усякае нечысці, да шчэ і дзякуе за ета, а калі хочаш ведаць, як яна дзякуе, то навязі гною да й пасей жыта, дак і будзеш знаць. Нашы дзяды і бацькі недарма казалі: тым, што зямля родзіць, падзяліся з ёю, наццa[1], еш сам хлеб, а салому аддай роднай зямельцы...**

**Няма ніколі і нічога багачэй за зямлю: сколькі яна родзіць хлеба, сколькі дае жалязá да ўсяго іншага? З яе капаюць усякую гліну на печы, на гаршкі да на пабелку, а мала ж то ўсюды закапана грошай? Хто ж урэшце дае чыстую здаровую ваду? Дае святая маці зямля...**

[1] Наццa — пабочнае слова: значыць, значыцца.

• Зваротны адрас • Зваротны адрас • Зваротны адрас • Зваротны адрас • Зваротны адрас

## А НАЗВА ЗАСТАЕЦЦА?..



Усё ў свеце паступова мяняецца. Вось і ў нас на Беларусі ўрэшце перамагла гістарычная справядлівасць і вернуты гістарычныя сымболі нашай Бацькаўшчыны: бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня". Дзяржава набыла годную назву "Рэспубліка Беларусь".

Усё мяняецца, а калектыў газеты, напэўна, не зважае на змены ў нашым жыцці. Газета па-ранейшаму застаецца "Чырвонай зменай". Пэўна, жадае працягваць справу Маркса-Энгельса-Леніна і выхоўваць беларускую моладзь у духу вернасці ідэалам камунізму. Ва ўсякім разе, такая выснова напрошваецца, калі чытаеш назву газеты.

Я лічу, што надышоў час надаць газеце новую назву, бо атрымліваецца гісторыя як з помнікам Леніну ля Дома ўрада — над будынкам лунае бел-чырвона-белы сцяг, а на плошчы цёмна-шэры правадыр крочыць у "светлую будучыню".

Апошнім часам газета значна змяніла свой змест, стала больш цікавай, значыць, трэба, каб і назва адпавядала зместу. У якасці варыянтаў назвы прапаную "Моладзь Беларусі", "Пагоня".

**Юрась Півуноў, г.Магілёў.**

## АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ, А ДУРНЮ РАДАСЦЬ



З вялікай увагай прачытаў артыкул Уладзіміра Міхно "Чаму чырванее "Чырвонка"?" (4.11.—10.11.1991 г.).

Яна і, праўда, чырванее, бо ўсё ж неяк загубілася сярод мноства перыядычных выданняў. Мая любімая газета чырванее, бо ў яе малы тыраж. Тыраж малы, бо газета беларускамоўная. А беларусы кінуліся ў спячку, таму ім няма часу чырванець. А не пашкодзіла б. Найперш няхай бы пачырванела народная асвета, за тое, што выдае дыпломы і чырвоныя, і сінія, і нават шэрыя — і аднолькавая ім усім грош цана. Шэрыя нават болей цэняцца, асабліва ж, калі ўчарашні студэнт-троечнік у ладах з адміністрацыяй.

І ўсім нам, браткі-беларусы, пачырванець не зашкодзіць — за сябе, за дзяржаву, цяпер незалежную, за прэсу беларускамоўную. Прыкусіць язык і пачырванець, калі ўжо не ведаем ды цураемся мовы сваёй. Няўжо мова маёй нацыі надалей будзе не матчынай, а мацюжнай? Няўжо для добрага ды спагадлівага шчырага сябравага слова месца ў нашым жыцці не застанецца? Усе рады, калі суседа ліхаманіць. У госці трэба сёння ехаць са сваёй заваркаю і са сваім хлебцам.

Чаму ж беларуская мова стала слабая на язык? Душа крыўдуе і баліць. Я ўжо не пытаюся ва ўладаў, ці маюць журналісты "Чырвонкі" сталы з чырвонага дрэва — для працы, не пытаюся, ці раз'язджаюць чырваназменаўцы на чорных службовых "Волгах", адно толькі запытацца хачу: няўжо гэтак цяжка дыпутатам хоць бы на сесіі па-тутэйшаму загаварыць? Прабачце, але ж нават дыпламаваны баран, "каб розумам раскінуць мог авечым", і той, здаецца, загаварыў бы... А ў нас — абяцанкі-цацанкі, а дурню радасць. Усе нашы дэпутаты ганарацца, што выйшлі з народа, а ці многія з іх паспрабавалі назад у народ вярнуцца? Не ж, яны выйшлі з народа і едуць паперадзе, на легкавушках. Ці да мовы тут? А таварышы з райвыканкома ўвогуле не разумеюць, навошта чалавеку хадзіць пехатою, калі за ім замацавана службовая машына. То няхай даяркі на ферму пехотаю ходзяць. Там гразюка — усё адно легкавушка не праедзе.

А мо нацыя ўжо і не здольна пачырванець, бо надыхалася радыяцыі і схапіла белакроўя? Кажуць, нават кава шкодная, асабліва для тых, хто не можа яе купіць. А цукру, кажуць, няма таму, што браткі-беларусы папсавалі ўвесь на самагонку. Посуду няма — бо ў ім пяршак трымаюць. Каўбасы — бо цэх на рамонце. А можа, проста на закусь пайшла? Солі — бо яна шкодная для арганізма.

Дбаюць пра дачу — і забываюць пра дачку, пра маці, якая недзе ў вёсцы яшчэ гамоніць па-беларуску. Забыліся, для чаго патрэбны рукі — вось і дайшлі да ручкі. Па хлеб чэргі!!! Чаму, чаму, браточкі, ад беларускага гасціннага абруса засталося адно абрусенне? Нават мяса ў нашых крамах і то страціла здольнасць чырванець, бо ўжо даўно пасінела. А мяснікі сталі богам нацыі і не аднаго сабаку з'елі. І на злодзеях, няпраўда, шапкі болей не гараць, шапкі проста зніклі кудысьці, няйначай на рынак, а як цяпер маім землякам зіму перазімаваць?..

Чырваней, мая нацыя, на лютаўскім базарным марозе, бо засталася ты сам-насам з рынкам не толькі без шапкі, без ботаў, але і без газеты "Чырвоная змена". Але ў "Чырвонкі", веру, яшчэ будзе зялёнае святло на яе вуліцы.

**Кастусь Карнялюк, г.Віцебск.**




Беларускія народныя казкі

## НЕ СІЛАЙ, А РОЗУМАМ

Адзін чалавек пайшоў у лес дровы сячы. Насек дроў сеў на пень адпачыць.

Прыходзіць мядзведзь:

— Гэй, чалавек, давай будзем барукацца!

Паглядзеў чалавек на мядзведзя: дужы калмач — дзе з ім барукацца! Давай спярша паглядзім, ці маеш ты сілу.

— А як глядзець будзем?— пытаецца мядзведзь.

Узяў чалавек сякеру, расшчапіў пень зверху, убіў у расколіну клін і кажа:

— Калі раздзярэш гэты пень лапаю, значыць, маеш сілу. Тады я з табою буду барукацца.

Ну, мядзведзь, не падумаўшы, тыц лапу ў расколіну. А чалавек тым часам трах абухом па кліну — той і выскачыў.

Тут пень і сціснуў мядзведзеву лапу як абцугамі. Раве мядзведзь, танцуе на трох лапах, але ні расшчапіць пень, ні вырвацца з яго не можа.

— Ну што,— кажа чалавек,— будзеш барукацца са мною?

— Не,— енчыць мядзведзь.— Не буду.

— То-та ж,— сказаў чалавек.— Не толькі сілаю барукацца можна, а і розумам.

Убіў ён клін назад у пень, мядзведзь вырваў лапу ды ходу ў гушчар без аглядкі.

З таго часу ён і баіцца сустракацца з чалавекам.



## Як Ануся выгнала д'ябла

Перад дарогай у сталіцу Ануся вывалакла амаль усё, што назапасіла на зіму. У дадатак загадала мужу забіць лоўкага падсвінка і злупіць скуру з самай тлустай авечкі.

— Няўжо пацягнем усё ў Маскву?— падсмейваўся Яўхім, калі смаліў свінчука.

— А ты што, дасюль не ведаеш, што там у магазінах воку няма за што зачапіцца! А ў зяця ў нашага, сам ведаеш, добрыя жорны!

Калі ўсё было гатова, Ануська апранулася, як пава, і вымелася за дзверы.

— З паспяховым вяртаннем!— пажартаваў Яўхім, якому было зусім не да жартаў, бо ў хлеўчуку раўла і рохкала ўся хатняя гаспадарка.

Праз некаторы час на парозе маскоўскай кватэры цешча лыбілася дарагому і любімаму зяцю, які ад радасці толькі здзіўлена ікнуў. Насустрач бабульцы павыскоквалі з пакояў унукі, а дачка, гледзячы на вялікія клункі, расплылася ва ўсмешцы і нават цмокнула старую ў шчаку.

— Кукіш вам на талерачцы! Не вам усё гэта я прывезла,— гудзела старая, праходзячы ў пакой. Яна падышла да канапы, крэкнула, прысела і нязвыклым голасам заціўкала:

— Ведаеце, дзетачкі, да каго я прыляцела. Да галоўнага ведзьмака Расіі. Цяжка мне. Больш за паўгода не магу заснуць. Выветрыць мне трэба з сябе розную чартаўшчыну перад смерцю.

— Глядзі, каб пасля яго чартаўшчыны ў цябе зусім мазгі не адключыліся!— пакпіў з бабулі старэйшы ўнук.

— Не кажы абы-што!— рынулася ў спрэчкі даўняя знахарка.— Гэта вам не Кашпіроўскі, які ўмее добра языком малоць, і не Чумак, якому нібыта сам Бог загадаў лечыць.

— Ці не адзін чорт...— млява азваўся зяць, паглядваючы на нераспакаваныя цешчыны вузлы.

— А вось і не адзін!— не здавалася бабка, абараняючы вядзьмарскія прамудрасці.— Гэты празорца можа нават прас нацкаваць на чалавека!

— Цяперашнім часам, мамачка, нешта занадта многа іх развялося!— упэўненым голасам зацвердзіла дачка.— Пакуль не позна, лепш ідзі ў паліклініку, там выпішуць таблеткі ад бяссонніцы!

— Ведаю я. Усе вантробы разваляцца ад лекаў!— усчыніла лямант старая, даказваючы, што толькі цяпер свет нанова адчыніўся для ведзьмакоў і ведзьмаў і што толькі яны не дадуць ёй, Анусьцы, працягнуць ногі. — Вось пайду па адрасу і на прамілы бог буду прасіць, каб прынялі,— старая збіралася без папярэдняга запісу трапіць на прыём, для гэтага і прывезла ўсе свае сялянскія прысмакі.

Праз некаторы час услед за старой грукнулі дзверы. Ніхто не пабег дапамагчы. І толькі на наступны вечар стомленая ад бяссэнсавых пошукаў Ануся, з чамаданаў якой зыходзіў рэзкі мярцвячы пах, з няўмольным тварам і пакамечанай сукенкай дабралася да дачкі. А зяць, прыйшоўшы з працы, убачыў, што на яго ложку грувасціцца, нібы памерлая, цешча.

**Вера Барадзіч.**




У другім нумары часопіса "Роднае слова"//"Беларуская мова і літаратура ў школе" ўвагу шырокага кола чытачоў найперш прыцягнуць публікацыі ў раздзеле "Філалогія". Тут змешчаны артыкул "Адзінай мэты не зракуся...": крыжовы шлях Ларысы Геніюш", які прапанаваў выданню Алесь Марціновіч. Часопіс пачынае друкаваць нататкі Алеся Бельскага "Да глыбіняў жыцця" – пра маладую беларускую прозу 80-х – пачатку 90-х гадоў. "Пуржыць, паўзе мяцеліца" – цікавае філалагічнае даследаванне вытокаў "зімовых" словаў, якое зрабіла мовазнаўца Лілія Выгонная.

У раздзеле "Калі закончыўся ўрок" увагу аматараў школьных інсцэніровак прыцягне літаратурна-драматычная кампазіцыя "Вячоркі ў Паўлінкі", якую падрыхтавала вядомая настаўніца, паэтка са Слоніма Алена Руцкая. У такой інсцэніроўцы часопіс прапануе выкарыстаць і песню "Баба Ева, дзед Тамаш", словы і ноты якой змешчаны пад рубрыкай "І песню родную люблю я..."

"Адраджэнне роднай мовы на Міншчыне", "Міжэтнічныя працэсы на Беларусі ў люстэрку тапаніміі", "Дыялекталогія – школьны прадмет!?" – кола асноўных тэмаў, якія разглядваюць аўтары часопіса ў раздзеле "Школа і нацыянальнае адраджэнне".

Настаўнікі роднай мовы і літаратуры шмат карыснага знойдуць таксама ў раздзеле "Методыка і вопыт".Тут ідзе гаворка пра тое, як лепш правесці ўрок па тэме "Суфіксы" ці сачыненне-апісанне памяшкання, разглядваюцца стылістычныя рэсурсы марфалогіі, змешчана кансультацыя наконт правільнага складнення жаночых прозвішчаў, што заканчваюцца на -ка. Добрай падтрымкай для настаўніка літаратуры пры падрыхтоўцы да ўрокаў па творчасці Максіма Гарэцкага стане распрацоўка "...А там гарэла ціхае сялянскае святло..." Прыдадуцца да справы і нататкі з вопыту работы полацкай настаўніцы Валянціны Сухадолавай, артыкул пра выкарыстанне фонахрэстаматыі пры вывучэнні драматычных твораў.

Часопіс змяшчае артыкул, прысвечаны 60-годдзю штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", працягвае друкаваць "Каляндар юбілейных дат і памятных дзён на 1992 год".

**Агляд падрыхтаваў Іван ЖДАНОВІЧ, супрацоўнік рэдакцыі часопіса.**

*НАПАГАТОВЕ!*

*Яшчэ год-два таму ўсіх дзяцей у нашым казачным Саюзе прымалі ў піянеры. З аднаго боку, быццам бы карысная з'ява — цімураўцы там розныя, чырвоныя гальштукі... Аднак ці аб'ядноўвалі гэтыя трохкантовікі каго на самай справе?*

*Узгадайце свой прыём у піянеры — натоўп дзяцей, затлумленых дарослымі кіраўнікамі, як хор папугаяў, паўтарае: "Перад тварам сваіх таварышаў урачыста абяцаю..." Спытайся ў яго, што ты абяцаеш і ў адказ нібы магнітафонны запіс — "Перад тварам сваіх таварышаў..." Цяжка што-небудзь дабіцца яшчэ, бо будучы піянер сэнс у гэтыя словы не ўкладвае. "Адчапіцеся ад мяне, дзядзькі і цёткі!"*



# Пра "спіянераны" лозунг, гісторыю і будучыню

МАГЧЫМА ёсць патрэба вярнуцца да скаўтаў, у якіх, дарэчы, і "спіянерылі" ў свой час лозунг "Будзь гатовы!"? Нечакана цэлыя школьныя піянерская арганізацыі "перахрысціліся" ў "скаўты". Аднак гэта ж толькі новая вопратка для нябожчыка...

Што мы ведаем пра скаўтаў? Пры "дапамозе" савецкай ідэалогіі ў большасці павінна было скласціся ўражанне, быццам гэта дзеці недарэзаных буржуяў, якія змагаліся з піянерамі. На самай справе, скаўты — сур'ёзная плынь у міжнародным юнацкім і дзіцячым руху. Скаўцкія арганізацыі існуюць цяпер больш чым у 150 краінах свету. Адраджаецца гэты рух і ў нас, на Беларусі.

Заснавальнік скаўцкага руху англійскі палкоўнік Роберт Бадэн-Паўэл пабываў у Расіі два разы. У час першага падарожжа, у 1886 годзе, разам са сваім братам спрабаваў выведаць тайну пабудовы рускіх вайсковых аэрастатаў у Царскім Сяле. Браты былі затрыманы, але збеглі на англійскім гандлёвым судне.

У другі раз ён прыехаў па асабістаму запрашэнню імператара ў 1910 годзе. За час, які мінуў паміж гэтымі візітамі, Бадэн-Паўэлу давялося пабываць у розных краінах, куды яго закідвала вайсковая служба. У 1907 годзе, пад час англа-бурскай вайны, ён заснаваў сярод англійскіх падлеткаў арганізацыю скаўтаў. Мэта арганізацыі — падрыхтаваць моладзь да службы ў войску. Рабілася гэта ў выглядзе гульні ў разведчыкаў. Прынцыпы сваёй арганізацыі Бадэн-Паўэл выклаў у кнізе "Юны разведчык", якая адразу зрабілася бестселерам у Англіі і іншых краінах.

Скаўцкія арганізацыі ў Расіі з'явіліся ў 1910 годзе пад кіраўніцтвам вайскоўцаў: палкоўнік А.І.Панцюхаў у Царскім Сяле і капітан Г.А.Захарчанка ў Маскве набралі ў атрады дзесяткі юнакоў. А да гэтага існавалі так званыя пацешныя войскі, у якіх адстаўныя малодшыя афіцэры вучылі юнакоў шпацыраваць, спяваць шыхтавыя песні.

У 1914 годзе ўзнікла "Грамада спрыяння хлопчыкам-разведчыкам" — "Рускі скаўт". Ёй кіраваў віцэ-адмірал І.Ф.Бастрэм, а апякала вялікая княгіня Лізавета Фёдараўна.

Пад час I сусветнай вайны скаўты дапамагалі разведцы царскай арміі. На дзяцей ніхто не звяртаў увагі, і яны амаль без перашкод збіралі неабходныя звесткі.

У 1917 годзе давялося шукаць адказ на пытанне "З кім ты?". Скаўты былі ўцягнуты ў палітыку: адны на баку белай арміі, другія, зачараваныя роўнасцю і брацтвам, пайшлі за бальшавікамі. Аднак пасля перамогі бальшавікі выракліся сваіх памагатых, і ўжо да кастрычніка 1919 года адносіцца першае рашэнне камсамола аб скаўтах — II з'езд ВЛКСМ пастанавіў скасаваць гэтыя арганізацыі і ліквідаваць скаўцкія патрулі (атрады). Паводле звестак англійскіх навукоўцаў (напрыклад, Джыма Раёрдана з Брадфардскага універсітэта), скаўцкі рух быў афіцыйна забаронены ў СССР у кастрычніку 1922 года, але яшчэ да 1926 года ў пастановах камсамольскіх з'ездаў і канферэнцый з'яўляецца тэзіс аб неабходнасці барацьбы са скаўтамі, як "агентамі англічан і сусветнай буржуазіі".

Дык хто ж такія скаўты? Што іх цікавіць?

У агульных рысах гэта: выжыванне асобы ў неспрыяльных умовах, вандроўкі, вывучэнне гісторыі і геаграфіі не толькі па кнігах, але і з дапамогай уласных ног і рук. Культура, спорт, экалогія. Для дзяржавы вельмі карысна, каб будучы мужчына быў сапраўдным грамадзянінам, разумова развітым і духоўна багатым, моцным фізічна і маральна. Скаўцтва пашырае кола сяброў і дорыць радасць сустрэчы з прыродай. Скаўты не атэісты і не рэлігійныя фанатыкі. У Сусветны Саюз скаўтаў уваходзяць юнакі розных веравызнанняў і канфесій: каталікі, пратэстанты, будысты, праваслаўныя...

Як я ўжо казаў, скаўцтва адраджаецца і на Беларусі. У першую чаргу ў арганізацыю пайшлі тыя, хто па якіхсьці прычынах не жадаў быць піянерам, ёсць і так званыя "цяжкія падлеткі". Мінская арганізацыя хутка пашыраецца і ахоплівае кожны раён. Існуюць умовы для стварэння скаўцкага патруля ў Заводскім раёне, на базе "Золку". Зацікаўленыя могуць звяртацца на адрас: вул. Ташкенцкая, 26-3-46, ці па тэл. 41-17-23.

Дарэчы, нашы скаўты звярнуліся ў Сусветнае Бюро Скаўтаў з прапановай правесці наступныя акцыі: Дзень нараджэння зямлі і Дзень без смерці. Будзе праведзена анкетаванне сярод дзяцей, каб вызначыць, калі і як гэтыя акцыі праводзіць. Скаўты збіраюцца звярнуцца да палітыкаў, каб хоць адзін дзень яны дамагліся правесці без забойстваў. Да дактароў, каб яны прыклалі ўсе намаганні і не дапусцілі ў гэты дзень ніводнай смерці. Скаўты збіраюцца звярнуцца і да ўсіх нас, каб мы вытрывалі адзін гэты дзень і не зводзілі рахункаў з жыццём.

**Паўлюк Быкоўскі.**

НА МАЛЮНКУ:

● Эмблема расійскіх скаўтаў. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі верхні лозінг быў заменены надпісам "Русскій скаутъ"

*Званок на малітву*

# Востраў духоўнасці ці даніна модзе?

Наша грамадства крайнасцей у які раз пацвярджае гэтую назву — замест зруйнаваных прадзедамі храмаў спяшаемся адкрыць новыя, модай зрабілася асвячэнне святарамі розных новых пабудоў, а лідэраў дзяржавы ўбачыць са свечкаю ў царкве ўжо нядзіўна.

Быццам грыбы пасля дажджу, з'яўляюцца і нядзельныя школы — адкрыццё іх абумоўлена ўсплескам цікавасці да царквы, да рэлігіі. Бо хто не хоча пакаштаваць забароненага плоду? Дзейнічае такая школа і пры Свята-Пакроўскай царкве ў вёсцы Чыжэвічы Салігорскага раёна. І займаецца ў ёй 140 дзяцей ва ўзросце 6—14 год, вядзе заняткі протаіерэй айцец Мікалай (Мікалай Аляксандравіч Розаў).

Цяжка аднаўляць зруйнаванае. Выкладанне ў нядзельных школах вядзецца па старых, яшчэ дарэвалюцыйных методыках. Дзеці вывучаюць Біблію — Свяшчэнную гісторыю Старога і Новага запавету, асновы Праваслаўнай веры, Хрысціянскай маралі і богаслужэння праваслаўнай царквы, вучацца царкоўным спевам, славянскай мове і чытанню. Па магчымасці далучыць усіх жадаючых да царквы — такую задачу ставіць школа. Бо спакон веку тут была моцная сістэма выхавання — сцвярджэнне чалавека ў дабрыні, міласэрнасці, востры дэфіцыт якіх мы адчуваем у апошні час. І гэта горш за іншыя, матэрыяльныя дэфіцыты...

... А на Ражство ў школе была ёлка для дзяцей. І было весела!

**Н.Плыткевіч.**

**Фота Сяргея Брушко.**

*Званок на малітву*







Хаўрус

# Згвалтаваны... рокер,

## або Чаму бляюць ваўкі і выюць авечкі

*Мы нярэдка (асабліва ў маладзёжным жаргоне) ужываем расейскі слэнг. Скажам, слова "тусоўка" трывала замацавалася ў беларускіх газетах, на тэлебачанні. І здзіўляе гэта не толькі свядомых беларусаў. Аднойчы, калі я размаўляў з расейскім рок-спеваком Генадзем Чарняцовым ("Санбой"), ён зазначыў: "А чаму ваша газета ўжывае рускія словы там, дзе ёсць беларускія. Вы што, таксама двухмоўныя?" Я пытаюся: "Што ты маеш на ўвазе?" І ён адказвае: "Ды тая ж "тусоўка", яна ж у нас прыдумана. А ў вас я чуў цудоўнае слова "хаўрус". Яно мне больш падабаецца". Я ўдакладніў: "Не хаўрус, а хаўрус, на другім складзе націск",— і вырашыў, што менавіта пад гэтай рубрыкай мы будзем весці гаворку аб праблемах узаемаадносін у маладзёжным асяроддзі, аб пытаннях адраджэнскіх, культурных, сацыяльных. Сёння — рок-хаўрус.*

Рокераў у нас лічаць за людзей трывалых. Часам дагэтуль нават баяцца іх. І цяжка бывае пераканаць, што гэта такая ж разнастайная катэгорыя людзей, як і ўсе астатнія. А між тым не варта палохацца металіста або панка, які вычвараецца на сцэне. Усе гэтыя вычварэнні, магчыма, натуральны погляд на жыццё, яго натуральнае бачанне, якое можа быць блізкім многім з нас, але не кожны з нас адважыцца яго выказаць.

Публіцы нярэдка здаецца, што ўсялякія ганенні на рок-музыку адышлі ў мінулае разам з эпохай застою. Што ж, эпоха можа і адышла, але засталіся людзі. І не толькі ейныя апалагеты, але і выхаванцы, а часам і проста ахвяры. Сама з'ява — перабудова — рэч зусім неадназначная. Гэта як у электрычным ланцугу: калі ўсё "перабудаваць" наадварот (мінус замяніць на плюс, а плюс тым часам на мінус), дык выніку ў шмат якіх сістэмах зусім не ўбачыш.

Нядаўна трапілася мне ў рукі відэакасета "Беларускі рок у відэакліпах", якую падрыхтавала незалежная студыя "Берома". Здаецца, вось ужо і на тэлебачанне беларускія рок-гурты залезлі: маўляў, хоць і мала іх гучыць, але ж нешта робіцца — вунь ужо цэлая касета (3 гадзіны) назбіралася. Што ж, няхай сабе будуць камусьці падставы для аптымізму. Але...

Маю ўвагу на гэтай касеце прывабіў фрагмент жывога запісу рок-гурта "Дзіда" (здаецца, зроблены з мінскага фестывалю "Рок за незалежнасць"). Прафесійны, відовішчны выступ полацкай трэш-каманды быў адным з тых, якія найбольш уражвалі (побач з "Бондай", "Мрояй", "Рокісам"). Але на стужку трапілі і словы вядучага з таго канцэрта, журналіста радыёстанцыі "Беларуская маладзёжная" Віталя Сямашкі, сутнасць якіх зводзілася да таго, што "Дзіду" ніхто не запрашаў на гэты канцэрт, што, маўляў, "мы пра іх не ведалі, не чулі, а яны тут самазванцамі ўлезлі".

Не ведаю, як гэта ўспрынялі музыкі (ды не толькі з гурта "Дзіда"), але мяне такое выказванне папросту абразіла: каб ведаць, трэба газеты чытаць, на фестывалі ды канцэрты ездзіць, а не хваліцца пра тое, што не ведаеш, на ўсю рэспубліку. Пра "Дзіду" пісала і наша "Чырвонка", і "Знамя юности" (у рэпартажы з фестывалю "Рока-кола"). Водгукі былі зусім някепскія (дый заслужана), а "Нотны аркуш" летась нават прадставіў маладую зорку на фотаплакаце. Дый, акрамя таго, у першым выпуску гіт-парада радыё "Свабода" ў дзесятку лепшых беларускіх выканаўцаў, якую складалі журналісты мюнхенскай рэдакцыі, трапіла і "Дзіда".

І крыўдна не толькі за тое, што такую групу не запрасілі на прэстыжны беларускі канцэрт, а яшчэ і таму, што яе там зняважылі. Праўда, многія фаны трэшметалу, з якімі я апынуўся на тым відэапраглядзе, выказалі думку, што зняважылі там не групу, а Беларускае тэлебачанне, дзе квітнее густаўшчына і нядбайныя адносіны да нацыянальнага скарбу.

Вось тут, мне здаецца, і тояцца прычыны, чаму многім самабытным калектывам, як і раней, цяжка прабіцца да свайго слухача.

Адна прычына ў тым, што ў Беларусі няма ніводнай кампетэнтнай арганізацыі прафесійнага менеджмента беларускага рока. Тое, што гурт "Рокіс" улез неяк у Белдзяржфілармонію, яшчэ ні пра што не гаворыць, бо нармальная творчасць для гэтага калектыву таксама пад вялікім пытаннем, а славуты мінскі "Уліс", які мае два вінілавых альбомы і адзін лазерны кампакт-дыск, вымушаны быў пераключыцца выключна на заходнія ангажэменты.

Другая прычына ў тым, што існуючыя камунікатыўныя каналы займаюць незацікаўленыя людзі (або зацікаўленыя ў чымсьці далёкім ад музыкі). Я зусім не хачу аспрэчваць густы таго ж Віталя Сямашкі: не падабаецца табе трэш-метал, ніхто не абавязва яго палюбіць. Але як журналіст ты не маеш права не разумець яго або хоць ягонай публікі.

Уяўляю сабе анекдатычную алегорыю: на канцэрт, дзе выступаюць Шапэн, Моцарт, Агінскі, сяк-так прабіваецца апальны Вагнер. Захопленая навізною формы публіка цудоўна яго прымае, але тагачасны вядучы раптам заяўляе:

— Мы гэтага самазванца не ведаем і ведаць не хочам.

Кур'ёз? Дык навошта ж нам лезці ў бутэльку старых кур'ёзаў.

"Дзіда" іграе своеасаблівы рокавы авангард — трэш-метал, які не так лёгка ўспрынялі нават адданыя прыхільнікі рока. Але, па-першае, публіка такая ёсць і мае свае патрабаванні, па-другое, канкрэтна гэты калектыў — полацкая "Дзіда" — грае трэш чыста, тэхнічна, прафесійна. І ўсё ж пераважаюць густы, якія не прызвычаіліся да авангардных напрамкаў.

Калі, скажам, "Мясцовы час" знайшоў багатых спонсараў, а "Рокіс" дамогся разумення ў афіцыйнай дзяржустанове, дык "Дзідзе" не свеціць ні тое, ні другое. Яны вымушаны па-хуліганску ўрывацца ў "чужыя" канцэрты, не атрымліваючы за гэта ні талера, пісацца на бытавых магнітафонах кшталту "Снежаць" і толькі верыць у светлую будучыню.

Нават у родным наваполацкім рокклубе іх наўрад ці разумеюць. Калісьці сталыя дзядзькі з партфелямі ўсю рокмузыку называлі какафоніяй, дык сёння падчас і рокеры той жа трэш называюць какафоніяй. У адносінах да "Дзіды" я адчуў гэта, працуючы ў журы наваполацкага фестывалю "Рока-кола": і сябры журы, і калегі-музыкі часам гаварылі, што ў "Дзіды" няма ні сталага рытму, ні трывалай меладычнай асновы. Карацей кажучы, вінавацілі снайпера, што добра страляе, а суддзю — што строга карае. Між тым "Дзіда", бадай, ідэальна выконвае законы жанру, умеючы нават пры ўсёй сваёй сугестыўнасці пазбягаць надакучлівай павучальнасці.

Шчыра кажучы, асабіста я ніколі не быў трэш-фанам і любіў рок ад "Бітлз" да "Тэнджэрын дрым". Але зноў і зноў стаўлю тую беларускую відэакасету і разы па тры-чатыры запар пераглядваю эфектны нумар "Dzida-Live" пад назвай "Ты душу прадаў сатане". Рэдка даводзілася бачыць такое натуральнае, нязмушанае ўжыванне ў музыку, якое дэманструюць Лера Воліс, Уладзя Крусанаў, Зміцер Шутко. Нават "дзідаўскі" бубнач Уладзя Дзёмін уносіць прыкметныя каларытныя мазкі ў відарысы сцэны.

Я не здзіўлюся, калі ў хлопцаў хопіць сіл чакання і альтруізму, і "Дзіда" яшчэ папрацуе ў добрых студыях, пацаруе на шыкоўных сцэнах. Мы адчуем, што такімі гуртамі можна ганарыцца, але ганарыцца зможам ужо не мы. Шкада, што нікому так і не стане сорамна за тых, хто дзейнічаў паводле застойнага прынцыпу: "Чаго не разумею — тое ўсё кепскае".

Міжволі калі-нікалі прыгадаеш добрым словам старыя застойныя часіны, калі ўсе мы былі ў загоне і абараняліся разам — дружна, з азартам. "Бондзе" не трэба было тлумачыць, што "Магістрат" — гэта таксама музыка, толькі іншая, а нават прычасаныя сімфа-рокавыя "Блізняты" з імпэтам выступалі адной шобляй з хуліганскай стод-рокавай "Мрояй".

Я не скажу, што не адбываецца ў нас перабудова і няма ніякіх вынікаў. Але з болем усведамляеш, што нязменнай застаецца нашая сутнасць. У масе сваёй мы застаемся абыякавымі. І толькі лепшыя з нас здольныя яшчэ шкадаваць мёртвых, забываючца, аднак, пра жывых.

Ісачоў, Караткевіч, Шагал...

Колькі яшчэ дачакаемся прыкладаў, калі ланцуг непрыняцця будзе разарваны толькі пасля смерці, і процьма нечаканых сяброў пачне на сабе кашулю драць?

Скажаце, маўляў, што гэта старая праблема ўзаемаадносінаў фармалаў і нефармалаў? Але ж мы прасунуліся крыху наперад, і фармальныя музычныя ўстановы пачалі разумець нефармальны музычны рух. Ці прадбачыў хто калі, што кружэлкі "Мроі", адціснутыя фірмай "Мелодыя", будуць прадавацца ледзь не ў кожнай крамай (ад спецыяльных "music-shop'аў" да ятак "Саюздруку")? Толькі чаму і цяпер засталіся ваўкі і авечкі? І авечак, як і раней, пераважна з'ядаюць на вачах іхніх жа сясцёр. Прычына, здаецца, усё тая ж: сёстрам не падабалася, як бляяла авечка-ахвяра. І кожны раз яны радаваліся, чуючы чарговае непрыемнае бляянне, пакуль бляяць не даводзілася самім.

**Вітаўт Мартыненка.**



# АРГАЗМ. Што гэта такое?

Жаночы гомасексуалізм звычайна называюць лесбійскім каханнем ці сафізмам. Абедзве назвы маюць адносіны да старажытнагрэчаскай паэтэсы Сафо, якая жыла на востраве Лесбас у VI стагоддзі і лічылася першай гомасексуалісткай.

Відавочна, што жаночыя гомасексуальныя саюзы больш устойлівыя, чым мужчынскія. Гэта тлумачыцца тым, што жанчыны наогул больш ахвотна, чым мужчыны імкнуцца да стабільных эратычных адносін і ў іх рамках дасягаюць высокай ступені задавальнення як сексуальнага, так і ў галіне пачуццяў. Такія жаночыя саюзы бываюць нават больш моцныя, чым гетэрасексуальныя. У апошніх часцей здараецца, што партнёр-мужчына не можа (ды нават проста не хоча) задаволіць эмацыянальныя патрабаванні жанчыны. У тым ліку і сексуальныя, а часам — перш за ўсё сексуальныя.

Акрамя таго, сярод гомасексуалістак у меншай ступені існуюць праблемы з разуменнем нюансаў жаночай псіхікі і сексуальнасці. Адсюль — больш поўная гармонія гэтых саюзаў...

Муж і жонка В. прыйшлі да сексолага са скаргай, што пасля 4-х гадоў сумеснага жыцця жонка не адчувае аргазма ў час палавога акта. В.(27 гадоў) і яе муж (30 гадоў) мелі 2- гадовую дачку. Дзяцінства і юнацтва В. правяла ў невялікім горадку. Была адзінай дачкой пажылых бацькоў. Дзяўчынка вучылася добра, не прычыняла бацькам ніякіх клопатаў, але была скрытная і замкнутая, і таму ў яе не было сябровак, не карысталася поспехам і ў хлопцаў. Першая менструацыя з'явілася ў 15 гадоў і гэта было для дзяўчынкі непрыемным узрушэннем.

У 16 гадоў закахалася ў настаўніцу, якая паспрабавала ўвайсці з ёй у блізкія адносіны.

Знаёмства цягнулася больш чым паўгода, затым дайшло да фізічнай блізкасці. З гэтага моманту маладая дзяўчына рашылася цалкам на гомасексуальны саюз. Фізічна і духоўна звязана была са сталай жанчынай.

Пасля заканчэння школы наша пацыентка паступіла ў ВНУ і, паколькі універсітэт знаходзіўся ў 150 км ад горада, абедзве жанчыны праводзілі разам выхадныя. Калі В. была на 2-м курсе, яе партнёрку выкрылі ў інтымных кантактах з іншымі дзяўчынамі. Яе звольнілі і яна павінна была з'ехаць. Для В. гэта была трагедыя. Расставанне з вялікім каханнем і боль ад здрады. Яна закінула вучобу, ні з кім не мела зносін і пісала сваёй каханай доўгія лісты, поўныя папрокаў і тлумачэнняў у каханні. Яны ўбачыліся зноў, але ранейшай гармоніі ўжо не было. Да моманту заканчэння інстытута сувязь з настаўніцай была разарвана канчаткова.

На працягу пяці гадоў вучобы В. толькі двойчы сустракалася з хлопцамі, але не мела з імі ніякіх інтымных кантактаў. Пасля атрымання дыплома размеркавана была ў адзін з буйных гарадоў краіны. Усё часцей адчувала сябе адзінокай, была ў стане дэпрэсіі і ў рэшце рэшт звярнулася да псіхіятра. Па яго парадзе В. пачала пашыраць патроху кола знаёмых, сустракацца з мужчынамі. Яна сама таксама пачала выклікаць цікавасць, але па-ранейшаму адчувала сябе адзінокай і гэта падштурхнула яе да заняткаў мастурбацыяй.

У 26 гадоў мела палавы кантакт з мужчынам. Як яна падкрэсліла, зрабіла гэта проста з цікавасці. Аднак кароткачасовая сувязь не прынесла ёй ніякага задавальнення. Малады мужчына не меў дастатковага сексуальнага вопыту, быў недалікатны і моцна адрозніваўся ад яе ранейшай сяброўкі. В. прызнала няўдалай спробу "нармальнага" жыцця. Боязь зацяжарыць канчаткова адштурхнула яе ад гэтых спроб. Аднак праз нейкі час В. сустрэла мужчыну, якога год назад кінула жонка. Як В., так і яе новы знаёмы, былі людзьмі адзінокімі, і гэта іх зблізіла. Іх сувязь вызначалася ўзаемнымі цёплымі пачуццямі, акрамя таго, у іх былі агульныя інтарэсы і хутка яны ажаніліся.

Спачатку іх шлюб быў шлюбам "па разліку", але з часам яны рабіліся бліжэйшымі, больш давяралі адзін да аднаго. Аднак у сексуальным сэнсе не ўсё было добра.

"Я вельмі намагалася думаць пра свайго мужа ці мужчын наогул, часам мне здавалася, што я магу дасягнуць аргазма, але незалежна ад маёй волі я ўяўляла жанчыну і думка, што я з мужчынам, паралізавала мяне. Пераадолець гэта было не ў маіх сілах. А раней, калі я была з жанчынай, адчувала ў сабе столькі страсці".

В. ніколі не казала мужу пра свой унутраны свет гомасексуальных жаданняў. Адчувала сябе вінаватай. Той факт, што яе сексуальная арыентацыя пазбаўляе яе магчымасці натуральнага самавыяўлення ў жаданым шлюбным саюзе, напаўняла яе пастаянным пачуццём віны. Яна вырашыла згадзіцца на лячэнне, сама меней на кансультацыю спецыяліста. У час абследавання В. сказала: "Я не бачу сэнсу ў лячэнні, таму што калі згасне мая гомасексуальная цікавасць, ува мне застанецца пустата, бессэнсоўнасць. Не магу ўявіць сабе сексуальнае задавальненне з мужчынам".

Жанчына з гомасексуальнай арыентацыяй не змагла прыстасаваць сваю сістэму сексуальных каштоўнасцей да свядома выбранай гетэрасексуальнасці. Сучасная медыцына і псіхалогія не мае такіх форм тэрапіі, якія б гарантавалі змяненне палавой арыентацыі з гома- на гетэрасексуальную. Лячэнню паддаюцца звычайна асобы, якія не ў стане "ўпісаць" свае лесбіянства ў рамкі норм грамадскіх паводзін.

Пры гэтым трэба падкрэсліць, што навуковая літаратура часцей за ўсё засцерагае ад заключэння шлюбаў паміж гомасексуалістамі і людзьмі, якія прытрымліваюцца звычайных сексуальных норм з пункту гледжання нетрываласці, а часта і фіктыўнасці такіх саюзаў. Спроба "лячыць" гомасексуалізм толькі ўступленнем у шлюб не толькі безвыніковая, але і амаральная ў чалавечым сэнсе.

**Доктар Станіслаў Дулко.**
**Пераклад Т.Зуевай**
**з часопіса "URODA".**



*Люстэрка*

# Не плачце ў закутку,

## або Некалькі агульных парад для маладой маці.

У вашым жыцці вялікая шчаслівая змена. Вы сталі маці, і гэта наклала на вас новыя абавязкі. Вы хочаце вырасціць здаровага, сумленнага, разумнага, адукаванага чалавека, якому жыць у дні заўтрашнім, і не шкадуеце сіл для гэтага.

Так, выгадаваць дзіця – доўгая, цяжкая і вельмі адказная праца. Але сёння ў нас размова не пра гэта. Давайце пагаворым пра вас. Пра тое, што бацькі – таксама людзі, якія маюць свае патрэбнасці, што маладая маці можа і павінна заставацца цікавай і прывабнай – і як жанчына, і як асоба.

НЕ ЗАБЫВАЙЦЕСЯ, ШТО ВЫ ЖАНЧЫНА. А гэта значыць – павінны падабацца, хаця б і сабе самой. Ну хоць крышачку! Гэта ўздыме ваш настрой, надасць вам упэўненасць. Прыдумайце сабе новую прычоску, пашыйце спадніцу, купіце сукенку. А калі вам пашанцавала з мужам і ён час ад часу прэзентуе вам любыя жаночаму сэрцу прыемныя дробязі? Тады – выдатна!

Няхай вашы інтарэсы не абмяжоўваюцца домам. Будзьце асцярожныя: з вамі, руплівай гаспадыняй, будзе зусім нецікава, вы будзеце здавацца абмежаванай. А вы так шмат часу праводзіце дома, што вам патрэбны зносіны з людзьмі. Таму, калі лёгкі шок, ашалелась ад новых раддомаўскіх уражанняў міне – чытайце газеты, часопісы і нават кнігі. Цікаўцеся не толькі жаночымі плёткамі.

Вы, канечне, скажаце: ды на гэта ўсё не хопіць часу! Не засмучайцеся. Хопіць. Не кожны дзень, і не шмат, але час знайсці можна. А для гэтага...

АРГАНІЗУЙЦЕ РЭЖЫМ ДНЯ ДЗІЦЯЦІ. Старайцеся карміць малыша, укладваць спаць у адзін і той жа час. Першыя месяц-два будзе з гэтым складана, але паступова ўсё наладзіцца. Ваш малыш стане менш прачынацца ноччу, а бліжэй да года можа зусім праспаць да сямі, васьмі гадзін, а то і пазней. Галоўнае: вы будзеце ведаць, калі ён засне, на гэты час можна нешта планаваць.

СПЛАНУЙЦЕ ХАТНІЯ СПРАВЫ, каб не займацца імі бесперапынна з ранку да вечара. Усяму свой час. Хопіць і таго, што дабудзіцца гатаваць есці малому некалькі разоў на дзень, бясконца складваць яго цацкі, перапранаць. Не бярыце на сябе шмат у тыя дні, калі не будзе каму дапамагчы вам. Няхай раней будзе памыта бялізна, прыгатаваны і схаваны ў халадзільнік абед.

Ну, а калі спраў сёння так шмат, што невядома, за што хапацца? Спакойна. Толькі не за ўсё адразу. РАБІЦЕ ВАШУ РАБОТУ З ТАКІМ ВЫГЛЯДАМ, БЫЦЦАМ ЯНА РОБІЦЦА САМА, як бы не заўважаючы. Ніколі не спрабавалі пры гэтым співаць ці расказваць дзіцяці казку? І ніколі аб тым, як вы ненавідзіце мыць падлогу ці што вы "надзелі ярмо". Глупства! Няўжо вам не прыемна нешта мыць, гатаваць, прасаваць для дарагіх вам людзей? Само сабой, калі яны маюць магчымасць, палову работы возьмуць на сябе.

ДАВАЙЦЕ САБЕ АДПАЧЫНАК. Гэта неабходна хоць зрэдку. Я гавару не толькі і не столькі аб магчымасці спакойна паглядзець тэлевізар ці даўжэй паспаць у выхадны (калі вы маеце такі дзень), колькі аб змене абстаноўкі. Прыміце гасцей, адзначце свята, схадзіце на прагулку ўсёй сям'ёй. Ды не ў магазін – там вы сабе, хутчэй за ўсё, сапсуеце настрой на ўвесь дзень. Можна пабываць у парку ці іншым прыгожым месцы, наведаць сяброў ці сваякоў.

Чаму б не адпусціць мужа да яго сяброў – вядома, калі ён не адмовіцца ісці без вас? А іншы раз "развеецеся" вы. А можа, тут вам дапамогуць вашыя бацькі? Тады я вам проста зайдрошчу!

НЕ АДМАЎЛЯЙЦЕСЯ АД ДАПАМОГІ. Не бойцеся на нейкі час (лепш не вельмі доўгі) пакінуць сына ці дачку з вашай маці ці добрай сяброўкай, каб паехаць куды-небудзь удваіх з мужам. Галоўнае, каб гэта быў надзейны чалавек, які любіць і разумее дзяцей. Спрабуйце прадугледзець розныя сітуацыі: а што, калі давядзецца некуды тэрмінова паехаць ці вы, крый Божа, захварэеце?

У сям'і шмат залежыць ад жанчыны, агульны настрой – часта ад яе настрою. УМЕЙЦЕ ВАЛОДАЦЬ СВАІМ НАСТРОЕМ. Я рада за вас, калі вы ўмееце не паддавацца адчаю, дэпрэсіі. А калі не? Раптам без прычыны вам усё навокал здалося чорнашэрым? О, не плачце ў закутку і не злуйцеся на дробязі! Паслухайце добрую, вясёлую, аптымістычную музыку (якую – ваша справа). Пагартайце любімую кнігу, а калі вас натхняе такі сумны занятак, як вязанне, – калі ласка, займіцеся ім. Пагаварыце з чалавекам, які вас разумее (спадзяюся, у гэтым вам таксама пашчасціла).

Зразумела, жыццё не толькі свята, а нервы ў вас не жалезныя. Ну што ж, і разлуціцеся... прыдумайце на што. Раней сёй-той злаваўся на талеркі (можна і зараз – на тыя, што не б'юцца). Але лепей на што-небудзь больш цяжкае ці абстрактнае (на шафу ці стул, ці начальніка). Вядома, гэта несур'ёзна, але... у гэтым нешта ёсць.

Я шчыра веру ў тое, што вы даверыце свайму разумнаму сэнсу і ніколі нічога не даводзіце да абсурду. І яшчэ спадзяюся, што ў вас у сям'і, як кажуць, мір і каханне, узаемаразуменне. Тады вы не станеце думаць, што ваш малыш расце, а вы старэеце. Не, вы проста станowіцеся больш мудрай. І застаяцеся маладой і прыгожай.

**Таццяна Сніткo.**

**P.S.** Наша размова не скончана: мы прадоўжым яе наступным разам. На якую тэму? Гэта будзе залежаць ад вас. Пішыце нам пра тое, што вас хвалюе. На канверце рабіце паметку "Адам і Ева"

# Конкурс "Юны зух – варты старых двух" працягваецца

* * *

Бацька купіў у краме доктарскую каўбасу. Трохгадовы сын пытаецца: "А з чаго яе робяць — з дактароў?"




* * *

Чатырохгадовае дзіця штосьці малюе. "Хачу сканструяваць лятаючую мяцёлку, як у бабы Ягі, — тлумачыць яно бацькам. І дадае — Шанцуе ж ёй. Правілам руху падпарадкоўвацца не трэба".

**Сабрала Н.Алейнікава, Мінск.**

## *Тэлетайпная стужка "Гарчычніка"*

### Наша моц — у хітрасці

Як паведамляе інфармацыйнае агенцтва БелГАРЧінф, з наступнага панядзелка на тэрыторыю РБ завозіцца 999.000.000 злотых, якія, паводле меркавання ўрада рэспублікі, павінны замяніць 1 расійскі рубель і тым самым раззлаваць урад Ельцына і абавязаць яго перакрыць у Брэсце доступ нафты ў Польшчу. Паводле меркавання Сцяпана Хітрыкава, малодшага кансультанта першага намесніка другога рэферэнта нашага прэм'ера,— той нафты, што застанецца ў трубах нафтаправода Сырадой-Памарым-Віцебск-Гомель-Гродна-Брэст-Мінск-Ужагарод, акурат хопіць на ацяпленне ўрадавай дачы "Шуршуны".

Такім чынам, беларускі народ здолее захаваць свой інтэлектуальна-гаспадарчы актыў і выйсці на пасяўную-92 з Законам аб перадачы туркменскай зямлі беларускім фермерам у вечнае карыстанне.

**(Наш кар.).**

### У Акадэміі добра, а ў штатах — лепей

Хведар Купаросаў, дворнік АН Рэспублікі Беларусь, на ўчарашняй прэс-канферэнцыі ў вашынгтонскім аэрапорце "Рэмба-2" развянчаў плёткі беларускіх газетчыкаў аб тым, што ён мае намер вярнуцца на радзіму.

— Я атрымаў прапанову на заключэнне кантракта з тутэйшым Лос-Нэскім універсітэтам на чытанне цыкла лекцый перад прафесарскай аўдыторыяй пад пакуль што ўмоўнай назвай "150 варыянтаў вывядзення радыенуклідаў з вантробы чалавека з дапамогай адной бутэлькі "Смірноўскай",— заявіў спадар Купаросаў.

На пытанне карэспандэнта БелГАРЧінфа, калі Хведар Пятровіч збіраецца наведаць Беларусь, той адказаў: "Праблематычнасць адказу інтэгруецца сінхрафазантранізацыяй лізінга беларускіх дворнікаў у бартэры нашай гуманітарнай дапамогі амерыканскім навукоўцам, і таму маё вяртанне будзе залежаць выключна ад тэмпаў адраджэння цяжкай мануальнай працы ў дворніцкіх колах ЗША".

**(Ваш кар.).**




### Выбухі ў вясковай краме

Як паведаміў наш уласны карэспандэнт з вёскі Завош'е Чарнобыльскай вобласці ў тамтэйшую краму было завезена пяць скрынь гуманітарнай дапамогі з мястэчка Мафіёзі, што на поўдні італьянскага вострава Сіцылія. Шакаладныя пліткі "MARS", контрацэптывны "Кахікнур", аднаразовыя шпрыцы "Наркаманд" — усё гэта, паводле меркавання палескага МП "ЗУХ", павінна было ўзрадаваць вяскоўцаў і прадэманстраваць ім, што значная частка гуманітарнай дапамогі ўсё ж перападае простым людзям.

На жаль, свята было азмрочана цэннікамі, на якіх значыліся трохзначныя лічбы кошту. Кожны з вяскоўцаў, хто ўваходзіў у краму, убачыўшы цэннік, пачынаў так рагатаць, што ў суседняй з Завошшам Рыбнай Слабадзе людзі паціскалі плячыма:

— Зноў да завошаўцаў сапёры на размініраванне прыехалі...

### Удакладненне

У пачатку сённяшняга выпуску "Гарчычніка" мы паведамілі, што Хведар Купаросаў, дворнік АН Рэспублікі Беларусь, папрасіў палітычнага прыстанішча ў ЗША. На жаль, у інфармацыі карэспандэнта БелГАРЧінфа была дапушчана крыўдная памылка. На самай справе дворнік Хведар Купаросаў наогул у ЗША не адлятаў, бо ў яго няма не толькі замежнага пашпарта, але й беларускага.

Наш карэспандэнт А.Папялінскі зрэшты адшукаў спадара Купаросава ў даўжэзнай чарзе па гарэлку і папрасіў пракаменціраваць дэзінфармацыю. Вось што ён пачуў:

— Я не ўпершыню сутыкаюся з фактам выкарыстання маёй асобы дзеля паездак за мяжу. Вось і на гэты раз у Амерыку паляцеў пад маім прозвішчам адзін высокі чыноўнік. Хто ж ведаў, што ён вырашыць там застацца? Ягоны праступак я ацэньваю як здрадніцтва. Бо на мінулым тыдні ён пазычыў у мяне тры рублі і цяпер наўрад ці іх верне.

На жаль, Хведар Купаросаў не назваў прозвішча "высокага чыноўніка". Што ж, высвятленнем ягонага прозвішча, відаць, зоймуцца адпаведныя органы, у якіх працаваў "перабежчык". Мы ж са свайго боку выказваем прабачэнні сп.Купаросаву і нашым чытачам за недарэчнасць у друку.

**Рэдактар "Гарчычніка".**



## OMEGA

### Агенцтва АБК паведамляе...

* Усе тэлефоны-аўтаматы сталіцы Рэспублікі Беларусь будуць адключаны да канца лютага ў сувязі з усталяваннем новых 15-капеечных таксафонаў.

* Інфармацыя для тых, хто жадае абмяняць купоны на даляры па курсу 1:1. Абмен ажыццяўляецца на фондавай біржы ў Нью-Йорку толькі вялікімі партыямі (па пошце купоны не прымаюцца).

* Прыхільнікі меркавання, што "дзяржаве няма месца ў ложках грамадзян" падклалі дынаміт пад ложкі народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь. Інцыдэнт быў выкліканы прынятым нядаўна Указам па спыненню прапаганды парнаграфіі. Дабра, што абышлося без ахвяр.

* Паводле прагнозаў астролагаў, на гэтым тыдні чакаецца асабліва спрыяльны парадак нябесных свяцілаў, у сувязі з чым на прылаўках магазінаў невядома адкуль з'явяцца амаль што горы таннага мяса вышэйшай якасці.

* У Рэспубліцы Беларусь становіцца модным лячэбнае галаданне, якое прадугледжвае пазбаўленне ад амаль усіх хвароб (у тым ліку СНІДу). У меню прыхільнікаў гэтага напрамку медыцыны ўваходзяць вараныя, смажаныя, а таксама марынаваныя купоны і драўляныя рублі. Аўтар гэтай сістэмы В.Кебіч гаворыць, што вынікаў доўга чакаць не даводзіцца.

* Паводле "Кнігі Гінэса", беларуская моладзь — самая хударлявая ў свеце. Адкуль жа ўзяцца залішняй вазе?

* Урад РБ уследам за павышэннем аплаты праезду ў метро, таксі і інш. грамадскім транспарце, збіраецца ўвесці падатак на пешаходны рух. За кожны пройдзены пешшу кіламетр, грамядзянін РБ будзе павінен заплаціць у дзяржаўную скрыню 2,5 капейкі (можна ў СКВ).

* Нядаўна ў Мінску адкрылася (на паўлегальным становішчы) малое прадпрыемства па падробцы купонаў і талонаў. Але неўзабаве прагарэла з-за адсутнасці кліентаў. Каму яны зараз патрэбны, гэтыя паперкі?

**Падрыхтаваў Аляксей Краўчанка.**

## Рэклама ў нумар

**Вазьміце ў руку сякеру і зарубіце на сваім носе:**

*Светлафорск: 5-33-12, 2-53-31*

*факс (8-0103) 2-53-31*
*фэкс (8-0103) 5-33-12*
*крэкс (8-0103) 5-53-12*

**і ніколі не зафарбоўвайце гэтыя тэлефоны пудрай!**

Таму што ў нас клады, а на кладах — свабодныя месцы, месцы, месцы...

**Колдынгі Бім-бом-банка**

**Арганізацыя у кароткі тэрмін выканае дакладныя копіі:**

- талонаў на гарэлку
- купонаў
- мапы Беластоцкага рынку
- карціны С.Рахманінава "Ілья Мурамец забівае свайго сына".

*Тэл. у Буда-Лелютаве (8-5789) 123-456-789.*

– Калі вы хочаце стварыць моцную сям'ю з італьянкай, француженкай, японкай, якуткай, татаркай і антарктыдкай...

– Калі вы жадаеце абмяняць сваю чатырохпакаёвую кватэру ў цэнтры Мінска на бунгала ў цэнтры Гарлема...

– Калі вы прагнеце замяніць свае жалезныя зубы на чыгунную электрамясарубку "Мроя-6"...

– Калі вы спадзяецеся на нашу кваліфікаваную дапамогу...

**ВЫ НЕ НАШ КЛІЕНТ!**
**НАШ КЛІЕНТ УСЯГО ГЭТАГА**
не хоча, не жадае, не прагне.

*Кантактны тэлефон: 32-13-04.*

**Аб'явы ў "Гарчычнік" прымаюцца па тэлефоне: 32-13-04, на іншыя старонкі штотыднёвіка — па тэлефонах: 32-12-82, 32-50-01.**

Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: Саюз моладзі Беларусі
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ: Алена АГІБАЛАВА, Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ (першы нам. гал. рэдактара), Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Кузьма ШАПЛЫКА.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не раздзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефонах 32-12-82

Зак. № 6.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12